# ЧАСТКА ПЕРШАЯ
# БЛІЗКІЯ ЛЮДЗІ

## МАКСІМ

*Словы пра паэта Максіма Танка*

### Засланы ложак

Распавядаючы пра бальнічную раніцу, Танк кажа: «Сусед мой дзівіцца, што я прыгожа засцілаю ложак. А гэта ў мяне яшчэ з Лукішак, дзе патрабавалі засцілаць "як належыць"...» Паэта Максіма Танка прывучылі ахайна засцілаць ложак у турме. Мяне навучылі хутка ўпарадкаваць сваё спальнае месца яшчэ ў дзіцячым садку. Штолетнія наведванні піянерскіх лагераў адшліфавалі да бляску маё майстэрства засцілання розных ложкаў. Цяпер я не магу знаходзіцца ў пакоі з неахайным ложкам, а відовішча акуратнага засланага ложка цешыць маё вока.

### Польскае пытанне

Паэт Танк, як і кожны свядомы беларус у мінулым стагоддзі, быў заклапочаны нацыянальным пытаннем. Таму ён і звяртаў увагу на выказванні выдатных паэтаў і пра свой, і пра чужыя народы. Асабліва Танк пераймаўся польскім пытаннем. Менавіта ад палякаў моцна пацярпелі беларусы ў гады маладосці нашага паэта. Але польская культура ці не найбольш паўплывала на ягоны паэтычны дар.

«Палякі і так загінулі б, мусілі загінуць у сувязі з неўраўнаважаным спосабам мыслення». Вось табе і Гётэ, геній, філосаф!» (15.05.1974) запісаў Танк думкі немца пра суседзяў-палякаў. Здавалася б, Танк мусіў падтрымаць Гётэ ў жорсткім стаўленні да прыгнятальнікаў беларусаў, але Танк стаў на бок пакрыўджаных. Таксама асудзіў (29.12.1975) за фанабэрыстую антыпольскасць і цёмнаскурага расейца: «Пісаў жа А. С. Пушкін Вяземскаму: «Восхищаюсь храбростью поляков (1830-31 гг.)... Всё это хорошо в поэтическом отношении. Но всё-тки их надобно задушить. И наша медлительность мучительна». А як тады выглядае ягоная дружба з А. Міцкевічам?» Пра сяброўства Пушкіна з Міцкевічам пытанне рытарычнае, але я думаю, што тое сяброўства і дагэтуль добра выглядае ў паэтычных адносінах. Як выдатна чытаецца выпісаная Танкам (31.07.1989) цытата з паляка Вайды: «...Пытанне аб лёсе маёй радзімы. Для любога мастака яно галоўнае, і задае ён яго да смерці» (А. Вайда)».

## Чалавек

Пра хрэстаматыйны выраз рэвалюцыйнага пралетарскага савецкага паэта Горкага беларускі паэт Максім Танк напісаў (24.05.1971) так: «Некалі М. Горкі сказаў: «Чалавек — гучыць горда». А ў нашы часы ён можа гучэць — страшна...» Пасля сусветных войнаў так і трэба было сказаць пра страшную самазнішчальную сутнасць чалавека дваццатага стагоддзя. Час герояў прамінуў, і цяпер можна спакойна канстатаваць: чалавек — гучыць дробна. Няма горкаўскага Данка, які вырваў уласнае палымянае сэрца, каб асвятляць ім дарогу для сваіх супляменнікаў. Няма шамякінскага сэрца на далоні разумнага доктара, які спадзяецца ратаваць чалавека. Ёсць свіфтаўскія людзі на далоні. Дробныя нікчэмнасці з пазітыўнымі тваркамі тан-

чаць на пляскатай далоні манітора ды папіскваюць пра свае правы і памоўчваюць пра свае абавязкі.

## Рыфма

З усіх танкаўскіх самая танкаўская рыфма «рэвалюцыі-рэзалюцыі». З палымянага віленскага камунара Жэніка Максім Танк зрабіўся партнаменклатурным чыноўнікам Яўгенам Іванавічам. Менавіта такая дыялектыка і адлюстроўваецца ў згаданай рыфме, таму і гучыць яна ў вершы «Як многа гаворым і нудна...» арганічна. З'яўленне гэтай жа рыфмы ў іншых беларускіх паэтаў выклікала ў мяне неразуменне і нават агіду.

## Завершанасці

«...адна з прычын самагубства мастакоў — адчуванне завершанасці сваёй місіі. Я, напрыклад, не ведаю, што мог бы новага яшчэ сказаць Ясенін, Маякоўскі, калі б і далей яны жылі. Нават — Купала», — разважае Танк. Але такой завершанай місіі ён не пабачыў у паэткі Янішчыц: «Сёння (22.11.1988) пакончыла з сабой Жэня Янішчыц. Усе хадзілі, як аглушаныя. Што яе змусіла выкінуцца з сёмага паверха сваёй новай кватэры?» На мой розум, місія Яўгеніі Янішчыц была цалкам завершанай. У той час я некалькі разоў з ёю сустракаўся: і калі рабіў для Жэніных літаратурных выступаў рэкламны плакат, і калі прасіў падтрымаць легалізацыю таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя». Янішчыц ухваліла стварэнне «Тутэйшых». Тады яна жыла з сынам у нязграбна спланаванай паўпадвальнай і заўсёды сыраватай аднапакаёўцы. Пераезд з паўпадвала ў светлую ды прасторную зусім новую кватэру, безумоўна, быў для яе значнай падзеяю, але тое, што

адбывалася тады ў грамадстве і, адпаведна, у літаратуры, моцна засмучала Жэню. Гінула імперыя са сваімі каштоўнасцямі. Нараджаліся дзяржавы з новымі ідэаламі. Да кардынальных змен Янішчыц была не падрыхтавана, яна не бачыла сябе ў змененым жыцці. Паэтка загарнулася ў коўдру і скочыла з гаўбца.

## Самазабойства

Ёсць у Максіма Танка і такі запіс пра самазабойства: «Трагічная звестка з Малдавіі: застрэліўся Павел Боцу. Ніколі не верыў і не веру, што самагубства — праяўленне слабасці». Рэвалюцыянеру Танку заўжды была блізкай і зразумелай самаахвярнасць. Таму ён прымаў самагубства як збавенне ад непатрэбных пакут. Таму ён бачыў у самазабойстве праяву моцы чалавека. Таму, чытаючы ягоныя дзённікі, мяне дзівіць напісанне слова «Бог» з вялікай літары. Перакананы: Танк пісаў «бог».

## Выстава

«Быў на надзвычай цікавай выстаўцы, прысвечанай 90-годдзю з дня нараджэння М. Багдановіча. Трэба будзе яшчэ раз пайсці на яе, бо на адкрыцці было шмат народу, і ў гэтай мітусні не было як даўжэй спыніцца ля многіх партрэтаў, карцін, графічных работ», — запісаў Танк 28.11.1981. Экспанавалася на той, сапраўды ўдалай, выставе і мая карціна «Партрэт японскага паэта Ісікавы Такубоку». Выставачнаму камітэту, які ўзначальваў Уладзімір Стэльмашонак, давялося доўга тлумачыць, што Багдановіч пісаў вершы ў японскай форме танку, што лёс Такубоку і лёс Багдановіча вельмі падобныя ў сваім драматызме, што Такубоку носіць ганаровае званне — любімы паэт Японіі,

як мы называем Багдановіча — любімы паэт Беларусі. Маю жывапісную працу прынялі на выставу і павесілі побач з плакатамі. Цяперака ў Беларусі не праводзяцца вялікія выставы, прысвечаныя любімым паэтам, цяпер праходзяць выстаўкі, прысвечаныя розным сабакам, катам і палітычным падзеям.

## Гілевіч

Прачытаў у Танка: «1980.26.XII. Гутарыў з І. Шамякіным. Зноў — казаў — на партсходзе Ніл Сямёнавіч намякаў на розныя закулісныя махінацыі ў СП пры размеркаванні кватэр. Ну і дзівак! Лічыць, што толькі ён — самы, самы, самы...» Прачытаў і згадаў, як гэты «дзівак» напісаў смешную заяву на пашырэнне сваёй жылплошчы. У той заяве Гілевіч, маючы на трох чалавек вялікую трохпакаёўку, выпрошваў у дзяржавы дадатковыя пакоі для кніжак! Заяву разглядалі, пакой для кніжак не далі, адно пасмяяліся з праўды і шчырасці камуніста Нінела Сымонавіча Гілевіча.

## Вядзьмак

Максім Танк зрабіў 03.10.1992 такі запіс: «Купіў у кнігарні «Сказ пра Лысую гару», які яшчэ раз з цікавасцю прачытаў. Ну і маладзец М. А.! Напісаў ён на ўзроўні «Тараса на Парнасе». Прозвішча аўтара, здаецца, і сёння ніхто не ведае. Калі ў мяне пыталі: «Хто аўтар?», я ўсім адказваў, што ведаю, але без дазволу яго сказаць не магу, бо абяцаў маўчаць». У каментарах ніхто не парупіўся расшыфраваць ініцыялы «малайца М. А.», таму я выкажу версію, што Максім Танк «маўчаў» пра Міколу Аўрамчыка — легендарнага Ведзьмака Лысагорскага.

## Падборкі вершаў

Чытаючы дзённік Максіма Танка, зрабіў для сябе адкрыццё: асноўнай формай ягонай творчасці была падборка вершаў. Ён шукаў тэмы, збіраў матэрыял, пісаў і перапісваў вершы, збіраў напісанае ў часопісную падборку, заносіў у рэдакцыю і чакаў выхаду ў свет сваёй публікацыі. За лёс падборак Танк перажываў значна больш, чым за выхад кніжак. Творчасць іншых літаратараў Максім Танк гэтаксама ацэньваў збольшага па часопісных публікацыях. Мае апавяданні ён прачытаў у часопісе «Полымя». Для Танка я заставаўся аўтарам аповеда пра роднае Койданава. Прататыпы таго апавядання напісалі на мяне і на часопіс даносы ў самыя розныя інстанцыі. Танк абараніў «Полымя» і мяне на самым вышэйшым узроўні. Для Максіма Танка было важна абараняць часопіс, які штогод публікаваў падборкі ягоных вершаў.

## Паэтэсы

У дзённікавай занатоўцы за 28.12.1992 Максім Танк з відавочным сумам заўважае: «Трэба прызнацца, раней нам не вельмі вязло на паэтэс. Цётка, Буйло, Арсеннева... І як бы мы іх не ўздымалі, не ўзвялічвалі, вельмі абмежаваны тэматычны абсяг іх паэзіі, выйсці за які рэдка калі ўдавалася нават Жанне д'Дарк — Ларысе Геніюш...» У мяне няма на душы маркоты ад таго, што нашы паэткі саступаюць нашым паэтам. Мяне ніколі не захапляла творчасць ніводнай з паэтэс, пералічаных Танкам. А вось постаць святой Жанны, якая змагалася за свабоду радзімы, мяне ўражвала заўжды. Часам мне падаецца, што я чую салодкі атрутны пякельны смурод, які сыходзіць ад вогнішча, на якім паляць змагарку Жанну. Яна ўратавала Францыю. Яе спалілі на плошчы. Цяпер яна залатой вершніцай

скача ў Луўр. У нас няма ні Парыжа, ні Луўра, ні залатой Жанны, ні вялікіх беларускіх паэтэс, але ў нас былі, ёсць і будуць паэты, здатныя ахвяраваць уласнае жыццё дзеля Радзімы.

# ВАЛОДЗЯ

*Словы пра скульптара Валодзю Жбанава*

## Вясковасць

У многіх даведніках і энцыклапедыях пазначана, што скульптар Уладзімір Жбанаў нарадзіўся ў Мінску. Памылка. Ён нарадзіўся ў вёсцы Станькава на Міншчыне, а дзяцінства яго прайшло ў вёсцы Цівалі. Сям'я вайскоўцаў Жбанавых дзяліла аднапавярховы дамок з суседзямі. Добра, што ў дамку былі два асобныя ўваходы, і суседзі не назалялі адны адным. Калі Валодзя паступіў у мастацкую вучэльню, а бацькам далі гарадскую кватэру на вуліцы Адоеўскага, у вясковым дамку была зроблена мастакоўская майстэрня. Тая майстэрня праіснавала некалькі гадоў, ажно пакуль цалкам не знеслі вёску Цівалі, а на яе месцы не пабудавалі мікрараён з кінатэатрам «Аўрора» ды гатэлем «Арбіта». У тую майстэрню мяне вадзіў Анатоль Александровіч. Не памылюся, калі скажу, што ў мастацкай вучэльні і ў тэатральна-мастацкім інстытуце Жбанаў і Александровіч былі найвялікшымі сябрамі. У Цівалях яны малявалі натуршчыц, слухалі песні свайго куміра Высоцкага і зрэдку выпівалі з сябрамі. Цівалёўская вясковасць засталася ў Жбанаве назаўжды. Ён заўсёды быў чалавекам з аднапавярхова дамка. Чалавекам з вясковым густам. Чалавекам з кветкамі і яблынямі пад акном.

## Тэленакіды

У нашай мастацкай вучэльні быў культ эцюдаў і накідаў. Мы малявалі і пісалі паўсюль, дзе толькі

маглі прыткнуцца. Мы залазілі на дахі, сядзелі начамі на вакзалах, хадзілі на нядзельныя кірмашы. У маразы мы прыстройваліся каля пад'ездных батарэй. Заняткі па спецыяльнасці пачыналіся з прагляду накідаў і эцюдаў. Вялікую цікаўнасць выклікалі хуткія малюнкі з заацырка, цырка і тэатра. Балерыны, блазны, звяры былі нашымі ўлюбёнцамі, такімі ж, як старыя гандляркі з хлебнай крамы ды п'янтосы з пунктаў прымання шклатары. Мы малявалі і малявалі, паўсюдна і несупынна. Аднойчы ў вучэльні разгарэўся палемічны скандал... Валодзя Жбанаў прынёс стос накідаў, зробленых з тэлевізара. Што тут пачалося! Палова вучэльні крычала, што гэта гадка — маляваць з тэліка, таксама гадка, як і маляваць з фотаздымкаў. Натура, натуральнасць, прырода ставіліся ў нашай вучэльні вышэй за ўсялякую штучнасць і фотарэпартажнасць. Жбанаў адстойваў сваё права маляваць з экранаў, са здымкаў, з чужых узораў. Натурыстаў, назаву іх так, было больш, яны і перамаглі Жбанава. Па вучэльні нейкі час нават хадзіў грэблівы жарт: ты схадзі з тэлевізара памалюй. Гэта замест «пайшоў ты да чорта» казалася. Пакрыху на лямант пра накіды Жбанава, зробленыя з тэлеэкрана, вучэльня наша забылася. Маляванне і перамалёўванне з фотаздымкаў стала звычайнай практыкай. Мастакі пачалі набываць сабе фотаапараты, а пазней і кінакамеры... Але на мой розум, для мастака няма нічога больш важнага за накід, зроблены з натуры простым алоўкам на звычайнай паперы.

## Вандалізм

Жбанаў пакутваў ад праяў вандалізму. Ягоныя паркавыя скульптуры, што стаяць у прывакзальным Міхайлаўскім скверыку, неаднойчы нявечыліся дзікунамі. Зазвычай гэта здаралася пасля фут-

больнай гульні, калі натоўпы заўзятараў ішлі са стадыёна на вакзал. Вандалы білі ліхтары, ламалі кусты і дрэвы, нявечылі скульптуры. У бронзавай дзяўчынкі з парасонам звар'яцелая гапата шэсць разоў адломлівала парасон. Пра «шэсць разоў» мне сам Валодзя сказаў, калі я, пабачыўшы на зямлі адламаны парасон, патэлефанаваў яму. Аднаўляў свае скульптуры Жбанаў за ўласныя сродкі. Ці заводзіліся крымінальныя справы ў сувязі з актамі хуліганства? Не ведаю. Хутчэй за ўсё, не. Але тут я дазволю сабе выказаць парадаксальную думку. На мой погляд, Вова Жбанаў стаў вядомым скульптарам дзякуючы якраз вандалізму. Напярэдадні алімпійскіх гульняў у 1980 годзе, калі некалькі савецкіх гарадоў рыхтаваліся да сустрэчы спартоўцаў, была створана камісія па пераацэнцы садова-паркавай скульптуры. Толькі ў Мінску антымастацкімі было прызнана больш як восемдзесят скульптур. Камісія палічыла іх безгустоўнымі праявамі таталітарызму і падпісала загад на знішчэнне. Высакарогія алені, мядзведзі з бочкамі мёду, фантанныя жабы, жанчыны з вёсламі, мужчыны з паходнямі, танцоры і гарманісты, студэнты з кнігамі, хлопчыкі з падручнікамі былі сцягнуты з пастаментаў і выкінуты на сметнікі. Знішчалі скульптуры не толькі малавядомых аўтараў, а нават творы выдатных майстроў. Асабліва мне было шкада маладога чалавека з паўкаштоўным залацістым каменем у руцэ. Той маладзён упрыгожваў адну з цэнтральных алей у парку Чалюскінцаў, і стварыў яго наш Анатоль Анікейчык. Нешта некаму казаць у абарону скульптур было бессэнсоўна. Студэнты крыху паабураліся ў калідорах тэатральна-мастацкага інстытута, і ўсё сціхла. Толькі гораду былі патрэбны скульптуры-цацкі, без іх было сумна. Гараджанам хацелася абдымаць скульптурных мядзведзікаў і фатаграфавацца з ганарыстымі аленямі. Таму калі ў Міхайлаўскім скверыку з'явілася на бронзавай лаўцы маладая бронзавая жанчынка ў капялюшыку, яе адразу

ўсе палюбілі. Пра аўтара — Вову Жбанава — пачалі гаварыць, яго пачалі хваліць, яму пачалі замаўляць новыя і новыя скульптуры-цацкі. На месцы вынішчаных у 1980 годзе жалезабетонных скульптур Вова ставіў свае бронзавыя.

## Апакрыфічны Адамчык

Памёр чалавек, з якім я апошні раз моцна выпіў. Сам ён тады не піў. Ён не піў восем гадоў, а мяне ўгаварыў выпіць каньяку. Я не піў паўгода. Сабраўся з сіламі і кінуў, пратрымаўся шэсць месяцаў, нават крышку болей. Потым прыйшоў у майстэрню да Вовы Жбанава і выпіў каньяку «Белы бусел». Выпіў за свайго бацьку-нябожчыка і за помнік на бацькавай магіле. Жбанаў зрабіў эскіз помніка. Ён зрабіў выдатны эскіз па маіх малюнках. Мне бачыўся на татавай магіле вялікі камень — валун з Навагрудчыны, а на тым валуне сядзіць маленькі бронзавы хлопчык з ключыкам у руцэ. Мне бачыўся маленькі Адам, Адамчык з ключыкам ад райскай брамы. Такі апакрыфічны Адамчык, такі любімчык звяроў і птушак, такое райскае дзіця. Першае райскае дзіця. Так бачылася мне. Так і зрабіў Вова Жбанаў. Я прыйшоў да яго і ўхваліў эскіз. Ён з тумбачкі дастаў бутэльку і кубак. Наліў. Я выпіў. Сам ён не піў... У роўны цвярозы стан я вярнуўся праз тры дні. Апісаць маю злосць слоў не хапае. Я раззлаваўся на сябе, на алкаголь, на ўвесь свет агулам і на Жбанава персанальна. Я пракляў усё, што нітавала мяне з п’янкамі. Кляў я і старэйшага таварыша свайго Воўку Жбанава, які ўгаварыў мяне выпіць. Кляў, выкляў і пракляў. Мы пасварыліся. Моцна. Наша сумесная праца над помнікам скончылася. Некалькі гадоў мы не бачыліся. Ад розных людзей я чуў, што Жбанаў зноў запіў, што п’е моцна, што не можа спыніцца. Потым мы сустрэліся ў парку. Была раніца. Быў будны дзень. Валодзя запрасіў мяне выпіць з ім. Яго пахіствала. Я пасядзеў

з ім з паўгадзіны ў паркавай кавярні. Мы памірыліся. Цяпер яго, майго старэйшага таварыша Валодзі Жбанава, няма. Сумна і нават слёзна. Спадзяюся, недзе ў былой майстэрні Жбанава ўсё яшчэ стаіць невялічкі камень, а на ім сядзіць апакрыфічны Адамчык з ключыкам ад райскай брамы.

## Дзве рэчы

Ёсць дзве рэчы, што змянілі жыццё Валодзі Жбанава, — вайна і гарэлка. Жыў сабе скульптар, ляпіў сабе і ляпіў, а тут раптам скончылася вучоба і насунулася войска. Бацькі пашкадавалі свайго любімца Вовачку. Сям'я ў Жбанавых была спрэс вайскоўцы. Вось і ўладкавалі Вову на службу ў Віцебск. У Мінску кепска, бо блізка ад дому, блізка ад сяброў, блізка ад звычнага і цывільнага ладу жыцця. Выпраўляць сына ў Сібір ці на Далёкі Усход бацькі не захацелі. Выбралі спакойны і недалёкі Віцебск. Валодзя прыехаў у той Віцебск і пераапрануўся ў салдата. У наступную ноч віцебскі дэсантны батальён паднялі па трывозе, пагрузілі ў самалёты і закінулі ў Кабул. Вова апынуўся на вайне. Адразу трапіў у пекла, без усялякага чыстца і без якойсьці падрыхтоўкі. З Афганістана ён вярнуўся зусім іншым чалавекам. Яго было цяжка пазнаць. Стаў змрочны. Шмат піў. Слухаў толькі царкоўную музыку. «У мяне ў Афгане адна мара была, адно-адзінае жаданне... Вярнуцца, прайсці па раёне, зайсці ў гастраном, купіць віна і плаўлены сырок «Дружба», зайсці ў які пад'езд, сесці на прыступках, выпіць з рыльца і закусіць сырком. Усё! Іншых жаданняў у Афганістане ў мяне не было. Адна мара. Адна... Вярнуцца, выпіць віна і з'есці сырок». Валодзя вярнуўся з вайны, мы выпівалі і закусвалі. Добра выпівалі і добра закусвалі. Я думаў, што ён не паправіцца, не выпаўзе з меланхоліі, так і застанецца на ўсё жыццё змрочным

і п’яным, але ён знайшоў сілы, каб вярнуцца ў цывільны свет. Кідаў піць, працаваў, шмат працаваў, ратаваўся працаю. Весяліўся. Жартаваў. Але вайна і гарэлка яго далёка не адпускалі. Паціху-патроху гарэлка і вайна яго перамаглі. Толькі для мяне Вова Жбанаў назаўжды застанецца ўзорным прыкладам, старэйшым таварышам і сапраўдным героем. А як інакш?

# ЕЎДАКІЯ

*Словы пра паэтку Еўдакію Лось*

## Махеравы шалік

У маёй мамы з маладосці захаваўся шырокі махеравы шалік колеру маціцовай марской хвалі, раскрэслены танюткімі чырвонымі лініямі ў вялікія клеткі. Гэты шалік маме падаравала паэтка Еўдакія Лось. Дакладней будзе сказаць не «падаравала», а «абмяняла». Еўдакія за свой шыкоўны шалік узяла з мамы сціплую чорную кофтачку. Тую кофтачку мама звязала сабе кручком з розных, якія толькі змагла знайсці, нітак. Назбірала нітак. Села і звязала. Узор і фасон выбраўся з кнігі. Вязала мама хутка. Мама справіла сабе абнову, якая страшэнна спадабалася нашай суседцы — Дусі Лось. Паэтка прыйшла да нас у кватэру і папрасіла маму зняць з сябе чорную кофту. Прапанова была такой нечаканай і ашаламляльнай, што мама паслухмяна зняла кофту і засталася стаяць у станіку. Еўдакія таксама распранулася да станіка і спрытна нацягнула на сябе маміну абнову: «Выдатна сядзіць і на мне! Проста цудоўна сядзіць! І глядзіцца прыгожа! За тваю кофту я падару табе, Ніна, свой махеравы шалік. Зусім новы. Паглядзі...» Дуся ахінула маміны голыя плечы мяккім шалікам. Махеравы шалік у тыя часы быў супермодным рэччу, таму мама і сказала: «Нераўназначны абмен». Але ўзрадаваная Дуся адмахнулася ад маміных слоў і выйшла з нашай кватэры. Мама накінула шалік на галаву і падышла да авальнага люстэрка, што вісела ў перадпакоі. Мама зазірнула ў люстэрка і заўсміхалася. Так мне тая сцэна і запомнілася.

Мама стаць басаножу, на ёй чорная спадніца і белы станік, на галаве ў мамы шырокі махеравы шалік колеру маціцовай хвалі.

## Вязаныя сукенкі

Пасля таго, як Дуся Лось вымяняла на махеравы шалік маміну чорную вязаную кручком кофтачку, яна загарэлася жаданнем мець вязаную сукенку. Чырвоныя ніткі Дуся прывезла ажно з Вільні. На замову мама звязала ажурную сукенку, у якой Еўдакія Лось фарсіла не толькі ў нашым двары, але і на розных афіцыйных прыёмах у самых розных кутках свету. На той момант Лось лічылася найлепшай паэткай Беларусі. На жаль, форс у чырвонай ваўнянай сукенцы быў нядоўгі. Еўдакія панасіла сукенку адно лета і адну восень ды паклала яе ў шафу, прычым перад гэтым памыць не здагадалася. За зіму сукенку пабіла моль. Першая паэтка Беларусі страшэнна заперажывала, што аднавіць яе чырвоную сукенку ўжо немагчыма. Перажыванні Еўдакіі скончыліся толькі тады, калі з Вільні былі прывезены зялёныя ніткі і мая мама звязала кручком новую ажурную сукенку.

## Тата і Дуся

Быў ласкавы цёплы вераснёвы дзень, і тата наш сядзеў з дзіцячай каляскаю ў двары. Маці пабегла па хлеб у краму, на вуліцу Кузьмы Чорнага, а тата застаўся пільнаваць каляску, у якой спаў наш Мірык. Да таты падышла Дуся Лось і пачала яго сарамаціць: «Ты, Чэсь, творца. Ты — пісьменнік. Ты павінен займацца літаратурай, а не гушкаць дзяцей!» Дуся не пабачыла, як наша маці вярнулася з хлебнай крамы. Еўдакія гучна, на ўвесь двор прачытала кароткую лекцыю пра правільныя паводзіны беларускага

пісьменніка і ягоных блізкіх. «Еўдакія Якаўлеўна, можа, Вы нам ноймеце няньку, каб дзіця даглядала? Чэсь будзе пісаць з раніцы да вечара, а я буду цэлымі днямі сядзець у бібліятэцы і выдаваць кнігі...» Дуся грэбліва адмахнулася ад маміных слоў, нібыта мела рацыю. І сапраўды ж мела! Бацькі мае пачалі наймаць нянек, і яны глядзелі Мірыка, ажно пакуль ён у яслі не пайшоў.

## Пухліна

Дактары знайшлі ў паэткі Лось пухліну і вызначылі, што яна не злаякасная. З такой пухлінаю можна жыць і жыць, але Еўдакія пайшла на аперацыю. Вырашыла, што без пухліны будзе ёй і зручней, і весялей, і ямчэй. Аперацыя прайшла выдатна. Дуся адчувала сябе цудоўна. Сястра прынесла ёй паесці. Усё свежанькае, дыетычнае, яшчэ цёплае. У Еўдакіі прачнуўся апетыт, яна са смакам паела і памерла ў свае няпоўныя сорак восем гадоў.

## Ван Гог і газавыя лямпы

Разглядаючы палатно Ван Гога «Бульбаеды», маё вока шмат разоў спынялася на газавай лямпе, што вісіць над сталом у галандскіх сялян. Падобная лямпа вісела і ў нашай вясковай дзедавай хаце. Неаднойчы я спрабаваў намаляваць лямпу з яе шчыльна-жоўтым алейным святлом, але так нічога вартага і не намалявалася. Не было ў мяне слова, якое б трапна абмалявала святло, што спакойна ліецца з газавай лямпы. Спробы маляваць і пісаць лямпавае святло я рабіў у далёкай маладосці. Цяпер тое святло для большасці людзей засталося ў незваротным мінулым, але раптам я знайшоў да яго слова. Яно было ў выдатным апавяданні Еўдакіі Лось «Буркі». «...сонна свяціла керасінавая лямпа», — напісала

паэтка. Так, менавіта соннае святло ў газавых лямпаў. У сонным святле вячэраюць вангогаўскія бульбаеды. Хутчэй за ўсё, я ніколі не вярнуся да малявання газавай лямпы, але мне радасна ад знаходкі дакладнага слова.

# УЛАДЗІМІР

*Словы пра пісьменніка Уладзіміра Караткевіча*

## Чартаніяна

Караткевіч любіў вадзянікоў, лесавікоў, дамавікоў і чарцей. Нехта з нас любіць жаб, хтосьці паважае гномаў ды ваўкалакаў з пярэваратнямі, камусьці даспадобы сланы, а пісьменнік Уладзімір Караткевіч захапляўся тутэйшымі і суседскімі чарцямі. У яго на кніжных паліцах вышнуравалася цэлае войска з літоўскіх і беларускіх, чэшскіх і польскіх сувенірных чорцікаў. Бачыў Караткевіч і чарцей праўдзівых — тых, што з'яўляюцца да запойных п'яніц. Можна сказаць, што наш дзядзька Валодзя быў вялікім спецыялістам па чарцяках і чартаўшчыне. Таму з-пад ягонага пяра і з'яўляліся розныя казкі пра чорцікаў накшталт хрэстаматыйнай «Чортаў скарб». Кнігу з гэтым «скарбам» ён і падарыў майму малодшаму брату з такім надпісам: «Міламу Міраку Адамчыку ў падзяку за яго цудоўнага чорта з сасновай кары — вось гэтага дару папяровага чорта. Чорт-дзядзька Уладзімір Караткевіч 7 лістапада 77 г.». Сапраўды ж, нешта было ў Караткевічы ад чорта, ад сапраўднага беларускага чорта.

## Мармуровая калона і палотны

Калону Дзенісенка зрабіў са штучнага мармуру. Ён спец па штучных камянях. Вучыўся ў Грэцыі. Цяпер Беларусь мае майстра па працы са штучнымі камянямі. Каб дэманстраваць узровень, майстра зрабіў калону, пад калонаю — база, на калоне —

карынфская капітэль. Усё належным чынам выштукавана, і аканты на месцы, і валюты як мае быць закручаныя. Цуд! Дзенісенка заўжды мог зрабіць цуд. У маладосці ён уваходзіў у гурт мастакоў, што займаліся рэвізіяй кубізму. Такія кубізмы, як пісаў той гурт, ніхто не мог напісаць. Сарока, Астравух і Дзенісенка былі найлепшымі рэвізорамі кубістычнага жывапісу. Караткевічу падабаліся іх палотны. Казаў, што яны такія сакавітыя і духмяныя, як разрэзаныя на кавалкі вялізныя беларускія гарбузы. Уладзімір Караткевіч ведаў смак жыцця, таму і павесіў на нейкі час у сваім кабінеце некалькі палотнаў маладых кубістаў-рэвізіяністаў, як цяпер кажуць — постмадэрністаў. Ці паставіў бы Караткевіч у сябе ў кватэры карынфскую калону? Пытанне без адказу...

## Выказванне

Думалася, што запомняцца доўгія размовы з дзядзькам Караткевічам пра паўстанцаў Каліноўскага, пра тое, як катавалі змагароў за Беларусь, пра тое, як Караткевіч не хацеў тыя пакуты і катаванні апісваць, як ён збіраў факты пра павешанне, якім пакаралі Каліноўскага... Вядома, усё тое і запомнілася і неяк пазапісвалася, але больш выразна мне чуецца стамлёны і вельмі далёкі голас дзядзькі Валодзі з заўсёдным выказваннем: «Ногі, мае ногі, нясіце маю дупу!»

## Кубак

Караткевіч піў каву з вялікага кубка. Можна сказаць, што ён паглынаў каву вялікімі кубкамі. Калі ўсе пілі з маленечкіх парцалянавых філіжанак, дык дзядзька Валодзя са свайго глінянага «цэбра», куды ўваходзіла цэлая турка. Піць каву з Караткевічам —

значыць варыць дзве туркі, усім і яму. Выпіўшы «цэбар» кавы, Караткевіч ішоў працаваць.

## Строі

Ён любіў дарагія строі, белыя кашулі і фацэтныя гальштукі. Яны яго трымалі ў форме. Пасля гулянак-баляванак, пасля банкетаў-фуршэтаў, пасля розных бадзянняў, вандровак і падарожжаў Караткевіч доўга спаў. Праспаўшыся, прымаў ледзяны душ, піў каву з перцам, надзяваў свежую кашулю, завязваў модны гальштук, апранаў стыльны касцюм і сядаў за стол. За дзень ён мог сваім акуратным дробным почыркам напісаць каля дваццаці старонак прозы. У непрацоўныя дэпрэсіўныя дні Караткевіч сноўдаў па кватэры ў доўгім лілова-карычневым халаце.

## Крыўдлівасць

Янка Брыль у зацемках пра Караткевіча не абышоў і крыўдлівасць: «...мала сказаўшы пра Валодзеву шчырую натуральную паэтычнасць, прастату і складанасць, дзіцячую схільнасць да смеху, часамі крыўдлівасць, таксама ледзь не дзіцячую, лёгкую ранімасць, што ніколі не затойвалася ў недастойнай помслівасці...» Самае істотнае ў Брылёўскім пераліку — крыўдлівасць, ці не асноўная рыса ў характары кожнага беларуса. Караткевіч быў страшэнна крыўдлівы. Крыўдлівасць у яго была зусім не дзіцячая, яна была падлеткавая, з гучнымі абурэннямі, лаянкай і жаданнем бясконца спрачацца і даводзіць сваю праўду. Караткевіч ведаў адказы на ўсе пытанні, прынамсі, яму так падавалася. Ён казаў ісціну. Нязгодныя сутыкаліся з крыўдаю. Блізкія стараліся не злаваць дзядзьку Валодзю і мала ў чым яму пярэчылі.

## Кашкурэвіч і «Більярд»

Арлен Кашкурэвіч за сваё доўгае творчае жыццё зрабіў шмат прац. Безліч малюнкаў, афортаў, лінарытаў, кніжных ілюстрацый выйшла з-пад рукі тэмпераментнага графіка. З усяго творчага набытку Кашкурэвіча я заўжды вылучаў для сябе гравюру «Більярд». У ёй ёсць нешта ад прозы Генрыха Бёля з ягоным «Більярдам а палове дзясятай». Ёсць суворы стыль шасцідзясятых. Ёсць настрой, які панаваў у старым Саюзе сапраўдных беларускіх пісьменнікаў, што некалі стаяў на вуліцы Энгельса ў Мінску. Саюз той быў у доме, дзе партызанкі падарвалі акупанта, германца, гаўляйтара Кубэ. Не ведаю, якім чынам, але ў простай гравюры «Більярд» прачытвалася вялікая і складаная гісторыя Беларусі дваццатага стагоддзя. Прынамсі, для мяне яна прачытвалася. Доўгі час я думаў, што толькі для мяне і прачытвалася, і толькі для мяне і быў у той гравюры складаны падтэкст. Але, чытаючы ўспаміны Кашкурэвіча пра Уладзіміра Караткевіча, я напаткаў такое: «...наконт умоўнасці Валодзя быў не надта згодны. І многія мае творы, я адчуваў, ён не зусім прымаў. Хаця яму вельмі падабалася гравюра «Більярд». Ён нават пісаў пра яе. Цікава, што гравюра — матэрыял дастаткова ўмоўны. У ёй шмат чорнай, плоскай плямы, але Валодзю чамусьці падабалася. Ён аднойчы прывёў нейкага сябра да мяне ў майстэрню і папрасіў: «Пакажы нам «Більярд». Я паставіў гэты ліст, яны доўга глядзелі, і Валодзя нешта ўсё гаварыў свайму прыяцелю». Мяне моцна парадаваў той факт, што і Караткевіч выбраў са шматлікіх твораў Арлена Кашкурэвіча адну гравюру, а менавіта «Більярд».

## Узоры

Уладзімір Караткевіч паводзіў сябе, як вялікі французскі пісьменнік XIX стагоддзя. Ён піў каву

вялікімі кубкамі і ў вялікай колькасці, як Анарэ дэ Бальзак. Ён пісаў захапляльныя прыгодніцкія гісторыі, як Аляксандр Дзюма і Тэафіль Гацье. Ён навыдумляў гістарычную фантасмагорыю «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», не раўнуючы як Гюстаў Флабэр навыдумляў «Саламбо» ды «Спакушэнне святога Антонія». Караткевіч жыў і пісаў запойна, як у свой час жылі і пісалі запойна французскія літаратары, прыналежныя да вялікай эпохі рамантызму.

# МІХАСЬ

*Словы пра паэта Міхася Стральцова*

## Аўтапартрэт

«Ну і я стаю. Ні сумкі, / Ні авоські у руках», — так пра сябе сказаў Міхась Стральцоў у вершы «На аўтобуснай станцыі». Дакладна сказаў, лепш не скажаш. Ёсць людзі з лёгкай летуценнай душою, у такіх рукі заўжды вольныя. Такім не вельмі трэба ўсе нашы матэрыяльныя даброты. Свет такіх людзей спрабуе лавіць у свае сеткі, але злавіць не можа.

## Чытач

Нехта, здаецца ці не Анатоль Сідарэвіч... (Дарэчы, гэта ж так па-стральцоўску: пачаць абзац са слова «нехта».) Пэўна, Сідарэвіч, седзячы ў пракуранай рэдакцыі часопіса «Крыніца», сказаў, што для яго ці не найлепшы вобраз, створаны Міхасём Стральцовым, такі: нехта пад ліхтаром чытае газету. Горад, ноч, ліхтар, чытач, газета. Самотны чытач у начным горадзе — стральцоўскі вобраз, безумоўна. Няважна, хто тое заўважыў — Анатоль Сідарэвіч ці Алесь Асташонак. Дакладна, што Сідарэвіч расказваў, як яны — студэнты, паэты і пісьменнікі-пачаткоўцы — чакалі апавяданняў Міхася Стральцова. Чакалі, а дачакаўшыся — чыталі, перачытвалі, зачытваліся, абмяркоўвалі... Хто цяпер чакае газетнае ці часопіснае апавяданне? Хто, стоячы ў начным горадзе пад запаленым ліхтаром, чытае газету? Усё змянілася. Большасць са зменснага і заменснага пазабывалася. Усё яшчэ зменіцца пару-тройку

разоў, пра нас забудуцца, можа, нават забудуцца пра пісьменніка Міхася Стральцова, але чалавек самотны будзе чытаць.

## Пазначанасць

Міхась Стральцоў быў незвычайны чалавек. Незвычайнасць адразу кідалася ў вочы. У яго на шыі ружавела вялікая радзімая пляміна. Нібы апёк, нібыта вогненны малюнак, быццам таемны знак... Мне ў дзяцінстве, яшчэ ў школу не пайшоў, хацелася дакрануцца да гэтай пляміны. Здавалася, што цёмная ружова-фіялетавая скура павінна быць гарачай, як кіпень. Сяброўства са старэйшай дачкою Міхася Стральцова Вікай дазволіла мне бессаромна папрасіць пра магчымасць дакрануцца да радзімай пляміны. Яна была такая ж прахалодная, як і астатняя скура на шыі. Спатоліўшы цікаўнасць, я ўсё ж застаўся перакананым, што дзядзька Міхась — незвычайны чалавек, таму і пазначаны плямай.

## Дзіцячая чыгунка

Стаяў цёплы пачатак лета, была нядзеля, Чэсь Адамчык і Міхась Стральцоў выправіліся на дзіцячую чыгунку. Чэсь быў з шасцігадовым сынам. Міхась — з шасцігадовай дачкой. Ні Чэсь, ні Міхась не пайшлі б на тую чыгунку. Іх выправілі жонкі — Міхасёва Галя і Чэсева Ніна. Яны нават сабралі дзецям і мужам у дарогу «ссабойкі» — хлеб з маслам ды сырам. Маленькі цягнік завёз маленькія вагончыкі з бацькамі і дзецьмі ў лесапарк. Там можна было з'есці бутэрброды, запіць іх купленым ліманадам і пагуляць пад высокімі соснамі. Так і рабілі: елі, запівалі, гулялі. Потым вярнуліся ў маленькія вагоны, і маленькі цягнік пацягнуў вагоны ў горад... Шасцігадовым сынам Чэся Адамчыка ў той нядзельнай

вандроўцы быў я. Запомнілася цёплае святло, духмяны водар сасонніку і ўсмешкі Міхася Стральцова. Ён той летні падарожны дзень збольшага прамаўчаў і праўсміхаўся.

## Шкарпэткі

Было позняе лета. Стаяла густая цяплынь. Міхась Стральцоў курыў у акно. На аконнай раме віселі дзве шкарпэткі. Паэт курыў і чакаў, пакуль летні ветрык падсушыць яго шкарпэткі. Тады ў паэта была толькі адна пара шкарпэтак, але ў яго ўжо былі дзве дачкі і жонка-прыгажуня.

## Шакаладны торт

Віцы Стральцовай споўнілася сем. На дзень народзінаў мяне запрасіла не Віка, а яе маці — Галіна Сямёнаўна. Быў куплены шакаладны торт. У той безграшовы час такі торт — невераемная раскоша. Акрамя мяне, торт пакаштавала сама імяніннiца, пакаштавала яе сястра Ніка, Галіна Сямёнаўна, мая маці і бацька імяніннiцы — Міхась. Мы пілі гарбату і елі салодкае. На стале больш нічога і не было. Аскетычная раскоша. Больш за ўсіх з'ела Ніка. Яна замурзалася ў шакалад. Бацька сказаў ёй, каб пайшла і памыла твар. А яна заўпарцілася: «Не пайду, буду сядзець, як і ўсе!» Пэўна, каб надаць сабе дарослaсці і вагі, Ніка сказала, што яе бацька з'еў чарвяка. Еў яблык. Чарвяк выпаўз на той яблык, а бацька ўзяў і з'еў яго. І Ніка, і Віка бачылі белага чарвяка, але не паспелі сказаць і папярэдзіць бацьку. Яны закрычалі: «чарвяк-чарвяк!», — але бацька яго ўжо праглынуў. Паглынанне чарвяка адбылося ў вёсцы пад Слаўгарадам. Дзяўчаты былі страшэнна ўражаны гэтым здарэннем, а Міхась Лявонавіч казаў, што так бывае і нічога страшнага ў тым, што ён

праглынуў чарвяка, няма. Невядома, колькі б яшчэ за святочным сталом згадвалі беднага яблычнага чарвяка, каб не Галіна Сямёнаўна. Яна — школьная настаўніца — загадала спыніць размовы пра чарвяка. Размовы спыніліся, Ніка пайшла мыць твар, і святкаванне шакаладнага дня народзінаў скончылася.

## Сорам

Ёсць моманты, звязаныя са Стральцовымі, якія мне сорамна згадваць. Нічога асаблівага ў тых момантах і няма, але сорам ахоплівае мяне... Галіна Сямёнаўна прагнала з дому Міхася Лявонавіча. Ці ён сам сышоў ад сваёй Галі... Разышліся, адным словам. У пакоі, які нібыта ўсё яшчэ належаў Міхасю, я пражыў пару дзён. Спаў на нізкім ложку, сярод кніжак, што ляжалі стосамі каля сцен. Было сорамна за развод Стральцовых. Стаяла летняя спёка. Цётка Галя загадала мне лезці ў ванну і мыцца. Мне было адзінаццаць, і я саромеўся цёткі Галі. Яна сказала, каб не саромеўся, бо яна мне як маці. Што з таго? Я ж маці тады саромеўся... Галя мяне памыла і выцерла вялікім ручніком. Праз дзень мяне забралі ў інфекцыйную бальніцу, ажно на сорак каранцінных дзён: падазравалі дызентэрыю. Галя Стральцова мяне праведвала, бо бацькі адпачывалі на Чорным моры, у Гаграх. Праз два гады мы паехалі адпачываць у Сочы. Паехала мая маці з маім братам, я і Галіна Сямёнаўна з новым мужам — генеральскім сынам. Новы муж Галіны Сямёнаўны быў яшчэ некалі ў школе і яе вучнем. Галіна Сямёнаўна вывучыла і выгадавала сабе новага мужа — прыгожага і выхаванага. Мы ўсе — адпачывальнікі — ездзілі на электрычцы на пляж, на станцыю Ахун. Там была чыстая празрыстая вада, і новы муж Галіны Сямёнаўны плаваў з маскай і лавіў крабаў. Ён быў добрым плыўцом. Злоўленых крабаў ён дарыў майму брату Міраславу.

А мне было сорамна, бо я любіў дзядзьку Мішу, якога пісьменнікі называлі Міхась, а Галіна Сямёнаўна — Мішэль.

## Месцы

Калі бацькі атрымалі кватэру на Маркса, у якой раней жыў Брыль, дык Стральцоў пераехаў у нашу вызваленую трохпакаёўку на Прытыцкага. Такое адбылося вялікае перасяленне пісьменнікаў. Зразумела, што з Міхасём Лявонавічам я любіў пагаварыць пра кватэры і пра месцы, дзе яму добра жылося. Ён хваліў раён мясакамбіната, яму там жылося добра. Здавалася б, і смурод, і аэрапорт з аглушальным самалётным гудзеннем над галавою, а Стральцову там добра жылося. Кепска жылося Стральцову на бульвары Шаўчэнкі. Ціхі раён, возера, конскі кірмаш з птушкамі, рыбкамі ды жывёламі. Камароўскі кірмаш з садавіной-гароднінай. Усё побач. Не жылося. Пілося. Сваркі дома. Для Стральцова бульвар Шаўчэнкі застаўся кепскім месцам. Раён вуліц Чарнышэўскага і Чорнага быў для Стральцова нейтральны, як раён Прытыцкага ды Апанскага. Мне Мінск выглядаў інакш. Я любіў і вуліцу Чорнага, і вуліцу Прытыцкага, любіў бульвар Шаўчэнкі і зусім кепска ставіўся да раёна вакол мясакамбіната. Карацей, у кожнай вуліцы свой паэт.

## Пабіранні

Перад тым, як патрапіць у ЛПП і пачаць лячыцца ад алкагалізму, Міхась Стральцоў пачаў пабірацца. Ён страшэнна схуднеў, зрабіўся да непазнавальнасці маленькім. Ён прыходзіў пад дзверы пісьменніцкіх кватэр, званіў і прасіў грошы. Спачатку яму пазычалі ці давалі проста так. А некаторыя, як мая маці, запрашалі зайсці і выпіць не на вуліцы, а за

сталом, на кухні. Стральцоў узяў у маці грошы, накупляў таннага віна і прасядзеў на нашай кухні паўдня і паўночы. Бацька, калі вярнуўся з камандзіроўкі і даведаўся пра сядзенне Стральцова на нашай кухні, злаваўся. Так злаваўся і сварыўся не толькі мой тата. Так сварыліся і злаваліся шмат якія з пісьменнікаў. Стральцову перасталі даваць грошы, перасталі нават адмыкаць дзверы, а ён усё хадзіў і хадзіў, ад адных дзвярэй да іншых, ажно пакуль яго не выправілі на прымусовае лячэнне. Выправілі, бо спадзяванняў, што сам выправіцца, ужо ні ў кога не засталося.

## Арыстакратызм

Адкуль у вясковага хлопца з-пад Слаўгарада з'явіўся арыстакратызм? Ніхто не скажа. Але ён у ім быў. Вальтэраўская саркастычная ўсмешка была ў Стральцова. Быў крытычны погляд на недасканаласць чалавечага жыцця-быцця. Была ўзнёсласць. Жанчыны яго любілі за арыстакратызм і артыстычнасць. Ён любіў жанчын, усіх і адразу... Любімыя жанчыны нарадзілі яму трох любімых дачок... Арыстакратызм Міхася Стральцова прапаў у ЛПП. З лячэбна-працоўнага прафілакторыя Стральцоў вярнуўся цвярозы, без алкагалізму і без арыстакратызму. Ён вярнуўся крыху сцішэлы, нібы прадчуваў сваю анкалогію і хуткі сыход у нябыт.

# ЯНКА

*Словы пра пісьменніка Івана Антонавіча Брыля*

Безумоўна, Брыль — наш чалавек, Брыль — свой, Брыля можна і трэба чытаць і перачытваць, у Брыля ёсць чаму павучыцца: мова, стыль, доўгае жыццё, працавітасць, вастрыня зроку, злосць. Брыль не белебердыст, Брыль не скалазуб, Брыль не ўдрыгвелы і не ўкамянелы. Брыль — жывы літаратар.

## Суд

Цяжка стрымацца, каб таму ці іншаму здарэнню не паставіць адзнаку, каб да нейкай падзеі не прыставіць азначэнне, каб які ўчынак не пазначыць адмоўнасцю ці станоўчасцю. Напоўніцу выканаць разумную параду: «Не судзі, і цябе не асудзяць», чалавек не можа. Але ж стрымліваць сябе трэба. А як стрымаць, калі злосць кіпіць? Вось Брыль пра Набокава: «Набокава за яго «Лаліту» трэба судзіць па адным артыкуле з гвалтаўнікамі нялетніх». І я Набокава не люблю за празмерную манернасць, але калі пісьменнік заклікае судзіць другога літаратара па крымінальных артыкулах... Тут і задумаешся, ці не надыдзе зноў час, калі майстры пяра перасадзяць і перазабіваюць адзін аднога за творы. Няўжо не паразумнеем?!

## Аўтапартрэт

Люблю аўтапартрэтную прозу з самаіранічнымі ноткамі і шчырымі інтанацыямі. Вось прыклад

маленькага аўтапартрэта памерам з жаночае люстэрка... «У электрычцы дзед сядзеў насупраць нешта сабе дамачкі і бездапаможна, тэарэтычна «прелюбодействовал с нею в сердце своём». Выдатна. Толькі калі тэарэтычна, тады зусім і не бездапаможна. А цытата магла б і па-беларуску прагучаць — пралюбадзейнічаў з ёю ў сэрцы сваім. І ўсё адно добра, па-брылёўску.

## Банкеты

Хто-хто, а Іван Антонавіч набанкетаваўся за сваё даўжэзнае жыццё напоўніцу. На кожнай дзясятай старонцы яго лірычнай прозы патрапіш на банкет. «А потым — банкет у адным з багацейшых калгасаў». У гэткіх сказах сапраўдны Брыль-чалавек.

## Жарты

Янка Брыль любіў выступаць. Ён з радасцю прымаў запрашэнні на ўдзел у самых розных мерапрыемствах. Да выступаў Брыль старанна рыхтаваўся, пра што неаднаразова згадваў у сваіх нататках. Рыхтаваўся ён сур'ёзна, таму выступы ў Брыля атрымліваліся лёгкія і цікавыя, асабліва ўдала пераказваліся загадзя нарыхтаваныя жарцікі. Аўдыторыя ўсміхалася, смяялася і нават рагатала. Але для мяне ў выступах Янкі Брыля крыху не ставала імправізацыі, бо ён быў аддалены і адгароджаны ад слухачоў, як тэатральны артыст. Афіцыйнай акадэмічнай артыстычнасці ў Брылі было значна больш, чым пісьменніцкай шчырасці. Безумоўна, Іван Антонавіч Брыль не апускаўся да такой формулы ў паводзінах, якую шырока практыкаваў і практыкуе прамысловы графік Валодзя Цэслер: «Прастаў каву, а я табе за гэта анекдот раскажу...»

Такой дробнакарыслівасці ў выступах знанага пісьменніка Янкі Брыля не было, але ягоныя анекдоты і жарты ніколі не вызначаліся свежым і вострым бляскам імправізацыі.

## Бібліятэка

Раней я любіў грамадскія бібліятэкі. Больш за астатнія любіў тую, дзе працавала маці. Апошняй з іх была бібліятэка Саюза пісьменнікаў. Я прыходзіў да маці, яна паказвала кніжныя навінкі, частавала каваю, прапаноўвала пагартаць свежыя нумары часопісаў. У бібліятэку да маці я забягаў па тры разы на тыдзень і вельмі часта бачыў там Янку Брыля. Ён сядзеў за сталом у чытальнай зале і гартаў падшыўкі газет. Брыль уважліва праглядаў «Звязду» і «ЛіМ». Каб Янка Брыль чытаў у бібліятэцы якую кнігу ці часопіс, я не бачыў. Як бібліятэчны чытач Брыль быў аматарам газетных падшывак. Цяпер я амаль не наведваюся ў бібліятэкі. Ні мамы, ні Брыля ў бібліятэках даўно няма. Замест бібліятэк я па тры разы на тыдзень заходжу ў букіністычную краму да прадавачкі Галіны. Там усё яшчэ прадаюцца нашы любімыя кнігі.

## Даўгалецце

«Каб толькі жыць як найдаўжэй, дык гэта вельмі цікава было б: як яно ўсё праходзіла — так многа і так доўга!.. Часта яна ў мяне паўтараецца, гэтая думка...» Ёсць і такія словы ў падборцы нататак Янкі Брыля «Пра галоўнае». Устаноўка на даўгалецце ў Івана Антонавіча была заўсёды. Ён шмат пражыў і многа спажыў, бо меў вялікую цікаўнасць да дня сённяшняга і да дня заўтрашняга.

## Дзённікі

Былы міністр Анатоль Бутэвіч трэці раз запар пытаецца пра выданне кнігаю дзённікаў майго бацькі — Вячаслава Адамчыка. На мой розум, выдаваць дзённікі таты без купюр яшчэ не прыйшоў час, а выдаваць іх парэзанымі няма сэнсу. Бутэвіч не пагаджаецца. Лёгка казаць, яму ж не давядзецца адказваць як публікатару за жорсткую пазіцыю пісьменніка Адамчыка. Я той адказнасці паспытаў і цяпер вырашыў пачакаць, пакуль той-сёй з апісаных бацькам падлюкаў выправіцца ў пекла. З дзённікаў таты Анатоль перайшоў да размовы пра дзённікі Янкі Брыля. Ён сказаў, што той пакінуў ажно пяць тысяч неапублікаваных старонак, а тамака шмат шчырага і важнага. У мяне вялікія сумневы пра шчырае і важнае. Брыль быў чалавекам абачлівым, па-сялянску хітраватым і разумным. Ён, вядома, бачыў, што ніхто не возьмецца адказваць за яго смеласць, таму і пісаў «адзін чалавек» ды «таварыш Н». Ніякай спавядальнасці ад Брыля не чакаю. Перакананы: найлепшае з напісанага ён павыбіраў і выдрукаваў яшчэ пры жыцці.

## Размовы

Дзіўна, што Янка Брыль не любіў размовы з журналістамі... Іх шмат хто не любіць насамрэч, але казаць пра тое ўголас мала каму хапае смеласці. Памятаю, мяне моцна здзівіла заява папулярнай групы «Сакрэт», у якой спявалі Фаменка з Леанідавым, калі музыкі запатрабавалі за размову з журналістамі грошы. Яны прасілі пяцьдзясят савецкіх рублёў за інтэрв'ю. На той час гэта была траціна сярэдняга месячнага заробку. Журналіст Фелікс Аксёнцаў страшэнна абурыўся сквапнасцю «Сакрэта», тады і я падумаў пра сквапнасць, не скеміўшы, што такім чынам папулярныя музыкі пазбягаюць сустрэч

з журналістамі. Сказаў пра грошы, і большая частка навязлівых размаўляльнікаў прападзе. Брыль не здагадаўся такім простым чынам «адшываць» занадта цікаўных пісак, ён тактоўна тлумачыў, што ўсё патрэбнае і важнае напіша сам. У наш час больш актуальнымі зрабіліся паводзіны Фаменкі і Леанідава, але мне імпануе пазіцыя Янкі Брыля.

## Ратаванне

У часы роспачы мяне ратавала лёгкакрылая проза Стральцова... Ратаваць ратавала, але ніколі не натхняла, як дзённік Сэй Сёнагон і занатоўкі Брыля.

## Пясок

Безжыццёвасць пяску апісвалі тысячы геніяў. Нішто так выразна не скажа пра бессэнсоўнасць нашага існавання, як пясочны гадзіннік. Таму разумею роспач Брыля, які кажа: «Бывала, дый неаднойчы, такое цягучае, прыкрае адчуванне, што я чытаю зашмат, як ваду ў пясок льючы, амаль услед забываючы прачытанае». І ў мяне бывала... Толькі шкадую, што зашмат пішу, а не зашмат чытаю. Чытанне, самаадукацыя — яны бясшкодныя. А галоўнае ў нашым абсурдным існаванні — не нарабіць шкоды адзін аднаму.

# МІХАІЛ

*Словы пра мастака Міхаіла Савіцкага*

## Яблыкі

Валодзя Ісачанка захапіўся творамі Міхаіла Савіцкага. Ён прапанаваў мне пайсці да свайго куміра ў майстэрню і папрасіць дазволу глянуць на новыя карціны, прысвечаныя вязням нямецкіх канцэнтрацыйных лагераў. Пра карціны хадзіла шмат чутак і легендаў, але мала хто тыя палотны бачыў. Ісці да Савіцкага я пагадзіўся. Мы нават прыйшлі пад дзверы майстэрні. Мы нават мастака дачакаліся. Савіцкі з'явіўся з газетным кульком, поўным яблыкаў. Мы павіталіся з майстрам, але акрамя «добры дзень» нічога не сказалі. Пасаромеліся. Ісачанка думаў, што я загавару з Савіцкім, а я быў упэўнены, што загаворыць ён. Так мы і не зайшлі ў майстэрню з легендарнымі карцінамі.

## Пазнавальнасць

Углядаючыся ў карціны і ўчытваючыся ў кнігі, ты міжволі шукаеш сябе. Калі ў чужых творах ты пазнаеш свой свет і сябе ў ім, мастак робіцца для цябе блізкім і сваім. Пра адных пісьменнікаў і мастакоў ты можаш сказаць «мой», а пра другіх ты так не кажаш. Міхаіл Савіцкі — мой мастак. Прыйшоўшы ў краязнаўчы музей маляваць чучалы ваўкоў, я спыніўся каля карціны «Добраахвотнікі». На ёй сяляне ў каўпаках і працоўныя ў картузах ды кепках запісваліся ў народнае войска. У адным з працоўных я пазнаў сябе. Каб развеяць сумневы, я паклікаў адна-

курсніка Гену Чэха, які таксама маляваў чучалы жаўтавокіх ваўкоў. У вобразе працоўнага ў чорнай кепцы Чэх мяне прызнаў. З палатна «Добраахвотнікі» я глядзеў сам на сябе. Раней на палатне я быў крыху старэйшы за сябе рэальнага, а цяпер я там значна маладзейшы, але ўсё яшчэ падобны, усё яшчэ пазнавальны.

## Заказ

Савіцкі заўсёды быў дзяржаўным мастаком на ўсе сто працэнтаў. Дзяржава стварала яго, а ён ствараў палотны на дзяржаўную замову і гэтымі творамі ўслаўляў дзяржаву. Выключэннем могуць паслужыць некалькі ранніх партрэтаў сына і жонкі, але яны, як і ўсе выключэнні, адно падкрэсляць правіла. У творчасці Савіцкага мне падабаюцца якраз выключэнні — «Дзяўчына з капустай», «Льнаводы» і два палотны з аднолькавай назвай «Рыта і Андрэй».

## Імя

Савіцкі не любіў, калі нехта называў яго Міхасём. Ён настойваў на тым, што яго імя менавіта Міхаіл, а не Міхась ці Міхал. За публічнае згадванне Савіцкага як Міхала ці Міхася ён крыўдаваў. Добра, што ніхто ніколі не назваў яго Мішэль, бо такую вульгарнасць Міхаіл Андрэевіч не дараваў бы ніколі.

## Мужчынскія забаўкі

Набралі мы таннага віна. Селі пад вербамі, каля самай рэчкі. Выпіваем і гаворым пра мужчынскія забаўкі... «Не так шмат у нас забавак!» — кажа мне выкладчык жывапісу Кім. «Не так і шмат!» — пага-

джаюся з выкладчыкам. «Якія ў нас забаўкі? Памаляваць ды выпіць? Ты яшчэ да якой дзеўкі сходзіш. Вы яшчэ пакурыце пад кустом бэзу... Усё». — «Ёсць яшчэ рыбакі. Ім ні чарка, ні цыгарэта не трэба. Іх нават дзеўка не натхняе. Бяруць вуду і стаяць гадзінамі каля вады». — «Савіцкі такі. Усё студэнты — гуляць-выпіваць, а ён з вудаю каля рэчкі ходзіць. Усю дыпломную практыку, дзень у дзень, і раніцай, і ўвечары прасядзеў каля рэчкі». — «Дысцыплінаваны». — «Не кажы! А ў майго таварыша, у Васіля, самая смешная забаўка! Ён і не п’е і не курыць, і рыбу не ловіць, і ў грыбы не ходзіць... Ён сварыцца з жонкаю. Сварыцца так, што яны ажно разыходзяцца, потым сыходзяцца, потым зноў разбягаюцца ды збягаюцца. І слёзы, і лямант, і крыкі з праклёнамі... Не разумею людзей з такімі дурнымі забаўкамі. Лепей сядзець пад вярбою і віно піць. Праўда?» — «Лепей», — пагаджаюся з выкладчыкам і разліваю вермут па шклянках.

## Постмадэрнізм

Вінцэнт Ван Гог сваім жыццём і ўсёй творчасцю давёў, што дзяржаўны заказ не з’яўляецца першасным для мастака. Пасля Ван Гога ўсе карціны, напісаныя для дзяржавы і на замову, выглядаюць халтурай. Нават замовы з царквы глядзяцца працай дзеля заробкаў, а не творчасцю дзеля спасціжэння законаў светабудовы. Таму палотны мастака Савіцкага варта разглядаць у кантэксце гісторыі савецкай імперыі. Перакананы, што адбудзецца перагляд адзнак, якія выстаўлялі яму ў свой час арткрытыкі і мастацтвазнаўцы. Савіцкі будзе залічаны ў шэрагі постмадэрністаў, якія старанна пераймалі ўзоры вялікіх папярэднікаў. Міхаіл Савіцкі пісаў імправізацыі на тэмы, знойдзеныя Казімірам Малевічам — «Сцелюць лён» і «Льнаводы», Кузьмой Пятровым-Водкіным — «Дзяўчына з капустай», Дыега Рыве-

рам — «Клятва» і «Партызанская мадонна», Хасэ Ароска — «У полі», Сальвадорам Далі — «Мадонна Біркенаў», Кэт Кольвіц — «Беларусы» і «Партызаны», як і павінен быў пісаць мастак у ягоным часе.

## Аскетызм

Міхаіл Савіцкі трапіў у палон і не адзін год правёў у канцэнтрацыйным лагеры. Жыццё ваеннапалоннага наклала на Савіцкага незнішчальны адбітак. Ён усе астатнія гады быў у сваіх паводзінах асцярожным і рацыянальным лагерным аскетам. Нават у ежы заставаўся асцярожным. Я бачыў, як пасля працоўнага дня Савіцкі павольна еў алюмініевай лыжкай суп з алюмініевай талеркі. Такія талеркі былі ў школьных сталоўках. Ад зайздросных людзей я чуў, што ў Міхаіла Савіцкага горы залатога і сярэбранага посуду. Таго шыкоўнага посуду я не бачыў. Можа, ён дзе і хаваўся, але дома і ў майстэрні ў мастака было ўсё спрошчана, нават свае ўлюбёныя кнігі і часопісы ён трымаў на самаробных паліцах без шкла.

## Захопленасць

Не скажу, што я быў пастаянным госцем у майстэрні Міхаіла Савіцкага, але некалькі разоў давялося пасядзець за гасцінным сталом разам з майстрам. Гасціннасць была сціплая — хлеб, гарэлка, піва, салёны агурок і сухаватая хатняя каўбаса. Савіцкі піў піва, а я — гарэлку. Майстар спытаў, чаму я не паступаў на станковы жывапіс, а пайшоў вучыцца на жывапіс манументальны? Мне зусім не падабаліся выкладчыкі на кафедры станкавістаў. Хіба можна было лічыць загадчыка кафедры Крахалёва мастаком? Савіцкі спытаў, ці памятаю я палотны Крахалёва? Я згадаў «Калектывізацыю» — зімовы дзень у вёсцы, пад чыр-

вонымі сцягамі сяляне ў рудых кажухах запісваюцца ў калгас. Савіцкі прадэманстраваў мне свой адметны саркастычны бязгучны смех і сказаў, што карціна «Калектывізацыя» найлепшая ў Крахалёва, бо яе напісаў не Крахалёў, а ён — Савіцкі. «Зайшоў да яго ў майстэрню. Па-сяброўску. Мы ўсе адзін да аднаго заходзілі па-сяброўску. Узяў пэндзлік, пачаў папраўляць твары, рукі, адзежу... Захапіўся. Вы ж ведаеце, як яно бывае, калі захопішся. Цэлы дзень і пісаў «Калектывізацыю», і напісаў». У апавяданні Савіцкага самым пераканаўчым была згадка пра стан захопленасці. Мастак без такога захаплення — не мастак, творца не творца. У гэтым была праўда Савіцкага, неабвержная.

## Святы

Андрэй Савіцкі казаў пра свайго бацьку-мастака, што той працуе, як селянін — без святаў і выхадных. Селянін і сапраўды так працуе, бо ў прыроды няма святаў, у жывёл і раслін няма выхадных. Мастак, калі ён праўдзівы мастак, мусіць працаваць несупынна, а не так, як пралетарыят — са шматлікімі выхаднымі ды шматдзённымі гулянкамі. Зрэшты, дыктатура пралетарыяў і зруйнавалася з-за іх любові да хмельных святаў і доўгатэрміновых гуляў.

## Трупы

Усё жыццё мастак Савіцкі маляваў трупы. Трупы мужчын пад чырвонымі сцягамі, трупы дзяцей у шэрых палюшках, трупы салдатаў у залатым жыце, трупы дзяўчат і жанчын, складзеныя для спальвання, трупы... Нават намаляваны Савіцкім Ленін выглядаў трупам, што вярнуўся з пекла. На большасці палотнаў Савіцкага не жывапіс, а трупапіс. Ён і ўражвае.

# Жарэбчык

Сустракаю на праспекце Незалежнасці пейзажыста-натурыста Шкарубу: «Ты чаго без капелюша?» Пытаюся, бо некалькі разоў запар сустракаў Валеру ў чорным шыракаполым капелюшы. «Цёпла... Учора Савіцкага хавалі, і таксама цёпла было. Пра яго можна вялікую кнігу напісаць». — «Пра што пісаць? Мы ж з табою ведаем, што Савіцкі ўсё даўжэзнае жыццё правыконваў дзяржаўныя замовы. Адны замовы. Замовы і ніякіх іншых думак». — «Так і трэба напісаць пра мастака, які ахвяраваў жыццё дзяржаве. Дарэчы! Савіцкі распавядаў пра жарэбчыка... Не мне, але я дакладна перакажу сутнасць ягоных слоў... Здарылася тое ў вёсцы, калі Савіцкі быў яшчэ маленькім хлопчыкам. Той хлопчык бегаў па лузе разам з маленечкім жарэбчыкам. Жарэбчык быў зусім-зусім маладзенькі. Хлопчык і жарэбчык набегаліся да стомы. Жарэбчык лёг адпачыць пад стог, на залацістую салому. Хлопчык лёг побач з ім. Яны ляжалі спіна да спіны. Яны так ляжалі і глядзелі на неба. Вечарэла. Бралася на холад, але хлопчыку было цёпла побач з жарэбчыкам; і каню было цёпла побач з хлопчыкам... Больш нічога цёплага ў жыцці і не было. Савіцкі так і сказаў, што, акрамя таго дня, нічога добрага ў жыцці не бачыў. Калі яго спыталі, чаму не напісаў светлую залатую карціну пра хлопчыка і жарэбчыка, Савіцкі на пытанне адказаў пытаннем: «Каму яно трэба — маё, асабістае?» Я развітаўся з Валерам і задумаўся над гісторыяй хлопчыка з жарэбчыкам. На першы погляд, яна вельмі кранальная. Па малюнку гэта выдатны мультыплікацыйны і коміксавы сюжэт. Нешта ў ім ёсць антычнае, нешта кентаўрастваральнае, нават манументальнасць ёсць, і разам з гэтым гісторыя не натуральная, не жывая, запазычаная. Хто і як яе сканструяваў — невядома, але да мяне яна прыйшла ўспамінам пра мастака Савіцкага.

## Тапчанчык

У майстэрні Савіцкага стаяў вузенькі тапчан, засланы вясковай дзяружкай. Часам на тым тапчанчыку мастак і начаваў. Калі ён захапляўся працаю над новай карцінай, дык мог і не пайсці дамоў, а колькі гадзін паспаць на мулкім тапчане, нечым падобным да лагерных нараў.

## Вучні

У Савіцкага было шмат вучняў, больш за чвэрць стагоддзя працавала ягоная акадэмічная майстэрня. Любімымі вучнямі Савіцкага сталі мастакі з першага набору: Валодзя Кожух, Віця Альшэўскі, Саша Ксяндзоў... Усе, хто займаўся ў Савіцкага, так і засталіся ягонымі вучнямі. Нават калі яны дэкларатыўна заяўляюць пра адыход ад эстэтычных каштоўнасцяў настаўніка, як гэта робяць Фелікс Янушкевіч, Рома Заслонаў і Хведар Кашкурэвіч, няўзброеным вокам відаць, наколькі палотны вучняў падобныя да палотнаў настаўніка.

## Блізкія людзі

Кола блізкіх людзей вакол Савіцкага было досыць спецыфічнае. Адно магу сказаць дакладна: вакол Савіцкага я бачыў шмат вельмі разумных людзей, менавіта разумных, што мяне моцна дзівіла, бо сам я ніколі не падзяляў светагляд гэтага мастака.

## Савіцкі і мой лёс

Некалькі разоў Міхаіл Савіцкі мне дапамагаў у лёсавызначальныя моманты жыцця. Некалькі

разоў пагаршаў маё і без таго кепскае становішча. Цяпер я стаўлюся да яго постаці нейтральна і захоўваю ўдзячнасць за дабро, зробленае Савіцкім уласна мне.

# ГАЎРЫЛА

*Словы пра мастака-манументаліста Гаўрылу Вашчанку*

## Лесвіца

Жывапіс Вашчанкі мне спадабаўся адразу і назаўжды. Упершыню я той жывапіс убачыў на выставе ў Беларускім дзяржаўным мастацкім музеі. Народу было шмат. Я прыйшоў разам з маці па запрашэнні свайго тагачаснага настаўніка — Сяргея Каткова. Ён выставіў летні нацюрморт з грыбамі і рыбаю, а Вашчанка выставіў карціну з маладым чалавекам, які нясе лесвіцу. Залаты чалавек нёс залатую лесвіцу. А над лесвіцай ляцелі пташкі, а пад ёю бег сабака. Усё навокал чалавека было вохрыста-залатое, як скошанае ў верасні жытнёвае поле. Для сябе я называю тую карціну «Лесвіца ў неба».

## Воблака

На чарговай выставе ў Палацы мастацтваў з'явілася палатно Вашчанкі, на якім было зялёнае неба з ружовым воблакам, што ўздымалася над лесам. Пра «Воблака» публіка загаварыла. Казалі, што нехта са студэнтаў раней за Вашчанку ўбачыў і напісаў ружовае воблака ў зялёным небе. Называлі нават імёны. Асабіста я не помніў, каб нехта пісаў і паказваў падобнае воблака. Зрэшты, школа працуе дзеля агульнай справы. Збольшага вучні пераймаюць майстэрства ў выкладчыкаў, але ж і выкладчыкам патрэбны свежыя ўражанні і дзёрзкія пошукі, якія прыносяць у майстэрню іх вучні. Я так і не адшукаў

жывапісца, які першы ўбачыў ружовае воблака над чорна-зялёным лесам, але я добра запомніў воблака Вашчанкі.

## Стыль

Гаўрыла Вашчанка ўвайшоў у мастацтва як наватар, стварыў узоры жывапісу ў суровым стылі. Калі станковыя карціны паказалі, што Вашчанка здольны рабіць абагульненыя і манументальныя вобразы, ён атрымаў замовы на сценапісы. У сваіх роспісах стваральнік суровага стылю ўсё ж застаўся найперш лірыкам, ягоны манументалізм лірычны, і ў ім няма ўсёразбуральных подыхаў сусветных катастроф. Лірычны манументалізм — вынаходніцтва, якое належыць менавіта Вашчанку, і гэтае адкрыццё знайшло працяг у творчасці шматлікіх іншых беларускіх манументалістаў. Таму можна сказаць, што Гаўрыла Харытонавіч змог стварыць уласную школу манументальна-дэкаратыўнага мастацтва.

## Мянушка

Свайго выкладчыка Вашчанку студэнты называлі дзіцячым і пяшчотным словам «вава». Вава прыходзіў... Вавы сёння не будзе... Вава сказаў! Дарэчы, усё сказанае загадчыкам кафедры манументальнага мастацтва Гаўрылам Харытонавічам Вашчанкам для маладых беларускіх манументалістаў было законам.

## Краявіды

Вашчанка любіць краявіды. Яму шмат даводзілася ездзіць у складзе мастацкага савета, які прымаў

зробленыя манументальныя заказы. Усе роспісы, мазаікі, вітражы, мемарыялы трэба было ацэньваць. Вашчанка ацэньваў, ездзячы з калегамі на аўтобусе. У яго было сваё месца, ён любаваўся краявідам праз лабавое шкло. Аднаго разу на месца Вашчанкі сеў Алег Хадыка і прапанаваў Гаўрылу Харытонавічу сесці побач, балазе — месца ж два. На што Вашчанка сказаў, што Хадыка будзе замінаць любавацца краявідамі. Хадыка страшэнна абураўся гэткім выгнаннем з крэсла, выгнаннем ад лабавога шкла, выгнаннем з мастакоўскай эліты. Абурацца ён паабураўся, але саступіў, што разумна, бо трымаць Гаўрылу Вашчанку ў ворагах — небяспечна.

## Японія

Калі Вашчанка вярнуўся з падарожжа ў Японію, дык расказаў пра тры здзіўленні. Японія была зусім чужой і нават варожай краінай, ажно пакуль ён не патрапіў у двор тамтэйшай акадэміі мастацтваў. Сярод мастакоў, выкладчыкаў і студэнтаў ён адчуў сябе сваім. Другое здзіўленне спарадзілі цэны на творы мастацтва. Вашчанка не змог набыць сабе нават самы маленькі і самы просценькі малюнак. Не хапала сродкаў. Японія і тады была, як і цяпер, вельмі дарагой краінай, у якой высока ацэньвалася ўсё, і нават сучаснае мастацтва малавядомых творцаў. Трэцяе вялікае здзіўленне і расчараванне адчуў Вашчанка і ў тамтэйшым музеі выяўленчага мастацтва. Ён спадзяваўся пабачыць там незлічоныя скарбы японскай культуры ад часоў старажытных да нашых дзён. Замест доўгачаканых скарбаў яго там сустрэў нешматлікі збор палотнаў рускага мастака з таварыства «Перасоўнікі» — Макоўскага. У прасторным і светлым музеі паказвалі толькі Макоўскага, а ўсё астатняе было схавана ў запасніку. На выставе было і вядомае палатно «Дзеці, што ўцякаюць ад навальніцы». Наяўнасць вядомых «Дзя-

цей...» зусім не суцешыла Гаўрылу Харытонавіча, які так і не пабачыў арыгінальных шэдэўраў Хакусая, Хірасіга і Утамара.

## Шарая гадзіна

Вашчанка шмат разоў казаў, што любіць задумваць карціны ў шарую гадзіну. У паўзмроку яму добра думаецца. Самы творчы настрой у Гаўрылы Вашчанкі з'яўляецца ў час паміж днём і ноччу. Мне было цяжка зразумець яго, бо мая творчая актыўнасць прыпадае на раніцу, а ўспышкі азарэння з'яўляюцца ў непрадказальны час. Шарую гадзіну заўсёды ўсхваляў Леанарда. Ён лічыў, што ўсе рэчы ў гэткі час набываюць сваё сапраўднае аблічча, якое не скажаюць густыя цені і моцнае святло. У мяне ў паўзмроку складаецца адчуванне, што я нечага істотнага недабачваю і недачуваю. У шарай гадзіне мне яшчэ і сумна. Але ў апавяданнях Вашчанкі я пачуў галоўнае — заклік адшукаць свой уласны творчы час і берагчы яго.

## Будаўнікі

Чалавек бывае не задаволены тым, што ён менавіта такі, а не іншы. Да свайго чалавечага яму карціць дадаць чужога. І адсюль — чалавек-рыбіна, чалавек-птушка, чалавек-змяя... Прага дадавання падштурхоўвае вынаходнікаў да адкрыццяў. Чалавек лётае, плавае, поўзае пад зямлёю, але так і не пазбаўляецца незадаволеннасці. Яго бянтэжыць смяротнасць. Чалавек выдумляе бессмяротнасць душы, выдумляе ўваскрашэнне, але супакоіцца не можа. Свае сумневы наконт бессмяротнасці ён хавае ў лабірынтах рэлігійных інстытутаў. Чалавек будуе саборы, каб часова забыцца пра вечнае небыццё. На пэўны час яму тое ўдаецца. Прынамсі,

гэта ўдавалася зрабіць майму выкладчыку Гаўрылу Вашчанку. Ён некалькі разоў распавядаў адну і тую ж гісторыю... На будоўлі сабора ў рабочых спыталі, што яны робяць... «Цэглу нашу...» — адказаў адзін. «Сцяну фарбую...» — сказаў другі. Трэці абвясціў: «Будую сабор!» Вашчанка агітаваў мяне, як і астатніх сваіх вучняў, — будаваць сабор. Як вучань, я мусіў пагадзіцца з настаўнікам, але, як мастак, я фарбаваў сцяну. Лепш сказаць, што ты фарбуеш сцяну, чымсьці ганарыста думаць, нібыта малюеш Бога, адказнага за тваю спакутаваную і бессмяротную душу.

## Матэрыялы

Ёсць матэрыялы, у якіх мастак рэалізоўваецца найлепшым чынам. Некаму дастаткова паперы і простага алоўка, як Юрыю Выхадцаву. Камусьці патрэбна смальта для выкладання шматметровых мазаік, як Аляксандру Кішчанку. Хтосьці выбірае іголку і цынк для афортаў, як Арлен Кашкурэвіч. Гаўрыла Вашчанка любіць палатно з алейнай фарбай, сцяну з воскам, вітражнае шкло і паперу з акварэллю. У Вашчанкі шмат любімых матэрыялаў. У кожным з іх ён рэалізоўвае свае задумы вельмі прафесійна. Уласна, матэрыял для Вашчанкі ніколі не быў самамэтаю. Ён — сродак. Вобразы Вашчанкі лёгка пераходзяць з акварэляў у вітражы і энкаўстыкі. Можа, нават і занадта лёгка.

## Элементы

Карціна складаецца з элементаў, і ў Гаўрылы Вашчанкі свой непаўторны набор такіх элементаў... Шыяны — карзіны з вузкім горлам для захоўвання зерня (палешукі іх плялі з лазы і саломы). Буслы — гаспадары палескага неба. Сланечнікі — даніна богаабранаму Ван Гогу. Блакітнае вока — якое

заўважаеш у аўтапартрэтах, партрэце сына Косціка і шматлікіх іншых партрэтах. Аблокі — яны на палотнах Вашчанкі цяжкія, поўныя жыццядайнасці і моцы. Хлеб у круглых, вялікіх, як прапячы, боханах. Дубы добрыя, як і ўсе беларускія волаты. Конь, які чакае свайго вершніка. Спаніэль — адданая добразычлівасць.

## Спаборніцтвы

Вашчанка, як і большасць прадстаўнікоў у нашым суровым стылі 1960-х, спаборнічаў з Савіцкім. Калі талент Міхаіла Савіцкага ўвасабляўся ў трагічных сюжэтах, дык талент Вашчанкі быў наскрозь лірычны. Савіцкага натхняла творчасць Янкі Купалы, а Вашчанку — Якуба Коласа. Вашчанка, як і Колас, увесь зямны, хлебны і залаты. Савіцкі, як і Купала, нябесны, зорны і халодны. У маладосці ў свае настаўнікі я выбраў Вашчанку, як пазней выбраў у свае ўзоры Коласа і Багдановіча, а не браў дэманічнага Купалу і пякельнага Савіцкага. Нацюрморт Вашчанкі, названы коласаўскім радком «Мой родны кут», я і зараз лічу адным з найлепшых палотнаў у беларускім выяўленчым мастацтве.

# МАЙ

*Словы пра мастака-жывапісца Мая Данцыга*

## Крэсла

У букіністычнай краме «Веды» я павітаўся з Данцыгам. Ён сядзеў на крэсле і гартаў альбом. У твары Мая Вульфавіча Данцыга не было ніводнай крывінкі. Колькі я хаджу ў гэтую краму, ніводнага разу не бачыў, каб некаму з пакупнікоў прадавачка вынесла крэсла. А тут вынесла, бо Данцыг глядзеў на наш свет зусім не так, як гэта робяць жывыя. Варта было спытаць у Мая Вульфавіча пра іншы свет, але я пасаромеўся, бо паспадзяваўся на наступную сустрэчу, як робяць усе жывыя.

## Паслядоўнікі

У Данцыга ніколі не было паслядоўнікаў. У Савіцкага, у Вашчанкі, у Бараноўскага іх было шмат, а ў Мая Данцыга не было. Усё жыццё ён выкладаў жывапіс, усё жыццё вучыў маладых мастакоў, і яны старанна вучыліся, але не наследвалі ягоныя прыёмы, ягоныя тэмы, ягоны падыход да мастацтва. Данцыг не збіраў вакол сябе аднадумцаў, як гэта рабілі Хадыка і Кішчанка. Данцыг на працягу свайго доўгага творчага шляху быў самотны і застаўся самотны са сваімі пошукамі і знаходкамі.

## Тры вокі

Май Данцыг купляў кансерваваны гарбуз не слоікамі, як звычайны чалавек, ён купляў цэлую скры-

ню, поўную слоікаў з салодкім гарбузом. Палатно ён набываў рулонамі, пэндзлі — пукамі, кнігі — чамаданамі. Ёсць такія асобы, што назапашваюць сабе сродкаў ажно на тры жыцці. Яны набіраюць сабе інструментаў для працы, як для трох работнікаў. Данцыг і карціны свае пісаў такіх шырокафарматных памераў, што, каб іх нармальна паглядзець, чалавеку трэба тры вокі.

## Партызаны

Данцыг разам з Савіцкім ствараў вялікі міф пра беларускіх партызанаў часоў Другой сусветнай вайны. Данцыг напісаў агромністае палатно «Партызанскае вяселле», а Савіцкі — «Партызанскую Мадонну». Шкада, што ніхто з іх не напісаў «Партызанскага анёла з лілеяй і аўтаматам» ці «Партызанскі лясны сэкс». Зрэшты, ні Савіцкі, ні Данцыг у партызанах не былі, таму малявалі партызанскае жыццё па ўяўленню. Аднойчы Данцыг змаляваў яго з карціны Рубенса. Данцыгаўская партызанка карміла цыцкаю агаладалага ў балотнай блакадзе змагара. Карціну цэнзары не прынялі, і шырокі глядач яе не бачыў. Постмадэрністычны ход з перамалёўваннем Рубенса мастакам спадабаўся, але былыя партызаны не захацелі пагаджацца, што нехта з іх у цяжкі момант харчаваўся жаночым малаком, забіраючы яго ў дзіцяці.

## Весялосць

Данцыг — вясёлы чалавек. У яго выдатнае пачуццё гумару. І ўсё ж... Калі маладзейшыя мастакі пачалі з яго падсмейвацца, рабілася крыху ніякавата, бо Май Вульфавіч быў безабаронны супраць заспіннага пасміхання. Ён губляўся... Некалі даўно Малішэўскі сказаў, што карціна Данцыга «У студыі Сяргея

Пятровіча Каткова» смярдзіць гнілым мясам, маладзейшыя пачалі разносіць жорсткі жарт пра смурод. Я патрапіў у складаную сітуацыю, бо карціна была кепская, а жарт зажорсткі. Я вырашыў маўчаць. Пазней я маўчаў і нічога не казаў студэнткам, што смяяліся з Данцыга, які не можа падняцца на другі паверх і праводзіць заняткі на першым, седзячы на калідоры. Насмешак і кпінаў з Данцыга робіцца болей і болей. Яго шкада, бо ён не ведае пра злоснае пахіхікванне цынічных мастацтвазнаўцаў. Іншыя мастакі ведаюць стаўленне да сябе, а Май Данцыг не ведае, таму яго і шкада, бо выглядае ўсё гэта драматычна.

## Газетнасць

Май Данцыг любіць кнігі і альбомы. Ён назбіраў адну з найлепшых бібліятэк сярод мінскіх мастакоў. З усіх падарожжаў Данцыг вяртаўся з чамаданамі, поўнымі — як падняць — кніг. І пры ўсім пры гэтым Данцыг — мастак газетны, а не кніжны ці альбомны. Ён заўсёды актуальны ў фармаце свежай газеты. У кнігах і альбомах яго творы выглядаюць легкаважнымі і састарэлымі. Таму Мая Вульфавіча любяць газетчыкі і не любяць аўтары манаграфій.

## Дэмакратычнасць

З намі — студэнтамі — выкладчык Май Данцыг быў падкрэслена дэмакратычны, выразна свой, амаль што роўны. Ад такіх узаемаадносінаў хацелася крыху дыстанцыявацца, таму я не прамінаў лішні раз сказаць «Май Вульфавіч». Я тады лічыў і зараз лічу, што адлегласць паміж вучнем і настаўнікам павінна быць максімальна вялікая, каб, калі што здарыцца, нікому не было занадта балюча і крыўдна.

## Вучаніцы

Ці спаў Данцыг — заможны і паспяховы мастак, тэмпераментны мужчына і цікавы выкладчык — са сваімі вучаніцамі? У мяне пра гэта перапытвалі шмат цікаўных. Думаю, што здаралася і такое. Ніякіх доказаў у мяне няма. Калі і былі б, я ўсё адно пакінуў бы кампраміснае «думаю». Маю права думаць, што Данцыг часам спаў са сваімі любімымі вучаніцамі, і я яго не асуджаю.

## Аптымізм

У Данцыга заўсёды прыўзняты настрой. Заўжды ў ім фантануе мажорнасць, бадзёрасць, свежасць, весялосць. Увесь час Май ідзе па жыцці ў аптымістычным настроі, але ў герояў ягоных карцін настроі розныя. На ягоных палотнах шмат вайны і чорнай фарбы. Такая неадпаведнасць была і засталася для мяне галоўнай загадкай Данцыга.

## Уплывы

Як мастак і асоба Май Данцыг сфармаваўся ў 60-х. Тады ствараўся суровы стыль — своеасаблівая галіна ў постмадэрнізме, адпаведна Данцыг любіў мадэрнізм, а ў ім — камуніста Пабла Пікаса і ягонага паслядоўніка Рэната Гутуза. Попельніца з акуркамі, напісаная тэмпераментным Гутуза, прарасла на палатне Данцыга ў выглядзе выразнай цытаты. Каменнасць і манументальнасць вобразаў Таіра Салахава таксама знайшлі водгукі ў творах Данцыга. Але ў Данцыгу ніякім стылістычным чынам не адгукнуўся мадэрніст Марк Шагал і мадэрніст Хаім Суцін, як і не адгукнуўся ў ім Сальвадор Далі.

## Дунаеўскія

У нашай акадэміі ёсць паганая завядзёнка — папракаць студэнта тым, што ён займае чужое месца. Маўляў, ты дарма сюды ходзіш, бо мастаком не станеш, а на тваім месцы мог бы вучыцца сапраўды таленавіты чалавек, які абавязкова зробіцца добрым мастаком. Прыклады прыводзіліся з мінулага. Данцыг згадваў, як вучыўся з сынам шырока вядомага савецкага кампазітара Дунаеўскага. Чаму сын знакамітасці вырашыў стаць жывапісцам, было загадкаю. Ён вырашыў, бацька дапамог, і сын паступіў. Работы за яго выконвалі аднакурснікі, якіх Дунаеўскі-малодшы вазіў па Маскве ў машыне Дунаеўскага-старэйшага. Зразумела, з такім падыходам да вучэння Дунаеўскі-малодшы не стаў мастаком. І можна было б сказаць, што ён займаў чужое месца, але ён стаў добрым кампазітарам, што здзівіла ўсіх аднакурснікаў, у тым ліку і Данцыга. Таму Май Вульфавіч не казаў сваім студэнтам, нават самым лянівым і капрызлівым, што яны займаюць чужое месца, ён любіць згадваць сваю маладосць з таленавітымі Дунаеўскімі.

## Авангардызм

З іншымі студэнтамі ўсё рабілася інакш, а мне старэйшыя традыцыяналісты любілі параказваць, як яны ў маладосці былі левымі і авангарднымі. Выкладчык Хаім Ліўшыц вучыўся ў Філонава, жыў на адной вуліцы з Шагалам. Таму я верыў, калі чуў ад Хаіма такое: «Вы ведаеце, я ж у маладосці быў такі левы, такі сабе левы, што вы такога лявацтва і не зможаце ўявіць!» За Хаімам Ліўшыцам пра свой авангардызм казаў і Май Данцыг: «Я нават пісаў задзірыстыя артыкулы! Пісаў так... Не трэба паліваць сонца з бранзбойта!» Мне добра ўяўляўся той бранзбойт, бо з яго часцяком палівалі на мяне і маіх паплечнікаў ды аднадумцаў.

## «Рэалізмы»

Рэальнасць, натура, сапраўднасць заўсёды натхнялі мастакоў. Мастакі стваралі каноны, больш аддаленыя ад натуры і больш набліжаныя да натуры. Ніхто з гэтым не спрачаецца. Я спрачаюся з іншым, лічу, што ніякага асобнага рэалістычнага стыля не існуе. Зараз модна перамаляваць на паперу ці палатно фотаздымак і прадаваць яго за гэты самы «рэалізм». Падобнае да фота салоннае мастацтва, разлічанае на малаадукаваных пакупнікоў, таксама называюць «рэалізм». Ёсць яшчэ «рэалізм» для начальнікаў. Ёсць «рэалізм» касцёльны і царкоўны. З такіх «рэалізмаў» можна было скласці цэлы саюз мастакоў-рэалістаў. Данцыгу такая ідэя вельмі падабалася. Ён яе ўсяляк падтрымліваў. Мне яна падаецца наіўнай і нават смешнай. Што можна сказаць пра рэалістычны вобраз Хрыста? Гэта ж справа недасягальная, ну як і тэлефонны званок наўпрост да Бога.

## Геніі

Аднойчы ў майстэрні Данцыга зайшла гутарка пра непрызнаных шырокім грамадствам і заўчасна забытых геніяў. Мы згадвалі сваіх знаёмых, што некалі змаглі намаляваць пару выдатных партрэтаў ці напісаць пару-тройку добрых краявідаў. Данцыг таксама распавёў гісторыю, як яго аднакурснік напісаў краявід на весніцах. У яго не было палатна, і ён напісаў краявід на старых дошках. Ён напісаў краявід і памёр. Быў ваенны час. Голад. Студэнт памёр. Пра яго забыліся. А Данцыг усё жыццё шкадуе, што не забраў тыя дошкі з геніяльным краявідам.

## Апошні вагон

Данцыг шматкроць згадваў, як у час вайны пакідаў Мінск, як бацька пасадзіў сям'ю ў апошні вагон, які сыходзіў з-пад бамбаванняў. Немцы бамбавалі Мінск, людзі ўцякалі з родных месцаў, кожны вагон ім здаваўся апошнім... Доўгі час я ўсё чакаў, што Данцыг напіша палатно «Апошні вагон», бо ён вельмі ярка пра яго распавядаў, пра бацьку, пра слёзы, пра невядомасць і страх. Не напісаў. Пэўна, падумаў, што ў такім палатне не будзе пазітыву, аптымізму, перамогі...

## Зацікаўленасці

Цяпер любяць пытаць чалавека пра зацікаўленасці. У Данцыга іх дзве — альбомы па мастацтве, якія ён можа бясконца гартаць і натхняцца, і майстэрня, дзе можна пісаць вялікія, памерам з трамвайны вагон, палотны.

## Непаўторнасць

Андрэй Плясанаў паціху-патроху назбіраў адну з лепшых калекцыяў сучаснага беларускага жывапісу. Ён нават склаў каталог свайго збору. Гартаючы той каталог, я зрабіў для сябе два адкрыцці. Мой партрэт натуршчыка ў адзенні будаўніка быў прыпісаны Маю Данцыгу, а пад партрэтам, намалёваным Тамарай Карэлкінай, пазначалася маё аўтарства. Тое, што Тамара намалявала мяне, крыху змякчала памылку. Натуршчык, праўду кажучы, быў напісаны на старым палатне, падораным мне Данцыгам, і на падрамніку засталося прозвішча былога ўладальніка. Памылкі ў каталозе выправіліся лёгка. Але гэтыя памылкі моцна пахіснулі маю веру ва ўласную адметнасць і непаўторнасць. Прамінула ўсяго-нічо-

га — нейкіх дваццаць гадоў, а маю карціну паблыталі з карцінамі Данцыга, а карціну Тамары Карэлкінай — з маімі. Паблытаў іх Плясанаў — чалавек дасведчаны ў тутэйшых мастацкіх плынях. Праміне яшчэ якіх сорак гадоў, і ніхто ўжо не выправіць памылкі ў каталозе, што мяне і засмучае.

# ЧАСТКА ДРУГАЯ
# ПАРТРЭТЫ

## МАЙСЕЙ

*Словы пра літаратара Майсея Кульбака*

### Мох

Ёсць кнігі, якія табе наканавана прачытаць. Табе шмат хто казаў пра раман Майсея Кульбака «Зельманцы». Ты слухаў, хітаў галавою, нават планаваў у бібліятэку пайсці па яе. Нарэшце кніга набылася, ты пачаў гартаць раман і вычытваць вершы. Гэта кепска, гэта тое самае, што з булачкі разынкі павыкалупліваць. Але ты такі, праўдзівы выкалуплівальнік разынак! Па вершах, пастаўленых у прозу, можна лёгка вызначыць і якасць самой прозы. Ты чытаў вершы і знайшоў словы песні:

*Ох ці мне, ох!*
*На балоце мох.*
*Хлопец па дзяўчыначцы*
*Сем гадоў сох.*
*Сох та ён, сох,*
*Высах, як гарох...*
*Ох ці мне, ох!*

Словы песні ў рамане, напісаным на ідышы ды перакладзеным на рускую мову, падаюцца па-беларуску. Кранальна. І кранальна ўдвая, што ў сваёй першай кніжцы прозы «Адзінота на стадыёне» ў апавяданні «Ну што тут скажаш?» я

таксама цытаваў гэтую песню, але крыху ў іншым варыянце:

*О-ой, ці мне, ох.*
*На балоце мох.*
*Хлопчык па дзяўчыначцы*
*Сем гадочкаў сох.*
*Со-ох жа ён, со-ох,*
*Высах на былінку,*
*Закахаўся у дзяўчыначку —*
*Журавінку.*
*На тае дзяўчыначцы*
*Ён не ажаніўся.*
*На гаркіх асіначцах*
*Задаві-і-ўся.*

Песню я пачуў ад Алеся Ліся, а ён ад сваёй бабулі. Песня была папулярнай у даваенным Мінску. У горадзе, дзе разгортваюцца падзеі рамана «Зельманцы». Таго рамана, які мне было наканавана прачытаць, і я яго чытаю ды перачытваю.

## Першае прачытанне

Пра талент Майсея Кульбака я пачуў яшчэ ў маладосці. Ён быў, як цяпер кажуць, культавым аўтарам у асяродку беларускіх рэстаўратараў. Раманам «Зельманцы» зачытваліся і Мікола Залатуха, і Валодзя Ракіцкі, і Хведар Сарока, і шмат хто іншы, з аматараў вывучэння ідыш-культуры. Захапляўся «Зельманцамі» і наш выкладчык архітэктурнай кампазіцыі, галоўны спецыяліст у рэстаўрацыйных майстэрнях — Алег Хадыка. Выглядала на тое, што раман Кульбака пра родны Мінск будзе прачытаны мною на самым пачатку васьмідзясятых гадоў, у часы ягонай найвялікшай папулярнасці сярод мастакоў, архітэктараў і рэстаўратараў. Не склалася.

Адклаў я прачытанне. Сышоў з рэстаўрацыйных майстэрняў. І нават праз трыццаць гадоў, пабачыўшы новае рускае перавыданне рамана ў «Цэнтральнай» кнігарні на сталічным праспекце, не набыў яго. Потым пашкадаваў, што выпусціў каштоўную кнігу з рук. Пайшоў на кніжны кірмаш і замовіў сабе «Зельманцаў» у перакупшчыкаў. Тыдні са два я кнігу чакаў, а потым і чакаць перастаў. Колькі ж можна? Але праз месяц раман прывезлі. Перакупнік патэлефанаваў, я сплаціў яму патроены кошт.

Магу сказаць адразу: «Зельманцы» і іх аўтар — Майсей Кульбак — знайшлі ў маёй асобе ўдзячнага чытача і прапагандыста. Чытаючы, я пісаў свае тэксты з мінскімі яўрэйскімі матывамі. Усё склалася цудоўна, але ёсць адно, страшнае і кепскае, пра што я тут абавязкова павінен сказаць...

Ёсць дакумент з назовам «Список лиц, подлежащих суду военной коллегии Верховного суда СССР». У беларускай частцы, падпісанай 15.09.1937 Сталіным, сто тры прозвішча, 103 асуджаных на расстрэл. Большасць з іх былі расстраляныя за адну ноч — з 29 на 30 кастрычніка 1937 года. Сярод іх і Майсей Кульбак. Агулам дваццаць два чалавекі.

Дагэтуль мы так і не змаглі годна ўшанаваць памяць пра ахвяры камуністычных рэпрэсій у Беларусі. Таму мне цяжка было пачынаць чытаць твор пакутніка. У вялікай ступені менавіта з-за гэтага я і адкладаў пачатак свайго знаёмства з Майсеем Кульбакам ды ягонымі габрэямі бульбашамі, пераназванымі ў зельманцаў.

## Час

Майсей Кульбак — пісьменнік рэвалюцыйны і ў формах, і ў змесце. Як і ўсе рэвалюцыйныя літаратары, Кульбак імкнуўся жыць хутка, ён падганяў і прыспешваў час. Выраз тагачаснага рэвалюцыйнага паэта Маякоўскага «Час наперад!» людзі ўспрыма-

лі літаральна. Пра рэвалюцыйнае прыспешваннне жыцця ў рамане «Зельманцы» чытаем наступнае: «Справа ў тым, што на апошніх партсходах Бэру крылі за адсталасць і хвастызм.

Так распавядаў Фалк.

Сакратар парткалектыва міліцыі Поршняў паклікаў Бэру да сябе, зачыніў за ім дзверы і пратрымаў ажно цэлых дзве гадзіны.

У калідоры чулі, як Поршняў грукатаў кулакамі аб стол і ганіў яго апошнімі словамі:

— Бэрка, ты спіш, разумеш, спіш!..»

У імклівым рэвалюцыйным жыцці нават звычайны сон для Майсея Кульбака быў недаравальнай раскошаю.

## Правінцыйнасць

Мінчанкі з даўніх часоў не любяць, калі іх, сталічных красунь, называюць правінцыялкамі. Яшчэ ў 1930 годзе Майсей Кульбак так апісаў грэблівае стаўленне мінчанкі Тоні да правінцыйнасці: «Яна пачырванела і перапытала па-габрэйску:

— Што ты сказаў?

— Правінцыйная дзявуля ты і больш нічога!

Тады Тонька дала яму пару аплявух. Ён, бедалага, закрыў твар рукою і, чакаючы працягу, адвярнуўся да сцяны, як у дзяцінстве, калі цётка Малкеле біла яго за кавалак скрадзенага цукру».

## Крыка-чых

Калюжны чхаў. І чхаў ён адметна. Ён чхаў з крыкам. Крыка-чых вылятаў з сагнутага напалам Калюжнага нечакана. Яго згінала сутарга, і ён чхаў, як страляў. Прысутныя лякаліся. Працаваў Калюжным выкладчыкам акадэмічнага малюнка ў мінскай мастацкай вучэльні. Крыка-чых мог

вырвацца з яго проста ў аўдыторыі, поўнай навучэнцаў і шчыльна пазастаўлянай мальбертамі. Пасля першага чыха навучэнкі з навучэнцамі пакідалі памяшканне, бо адным крыка-чыхам Калюжны не абыходзіўся. Ён чхаў шмат. Твар ягоны чырванеў да чарнаты. Барадаўкі, што вялікімі сем'ямі віселі на шчоках Калюжнага, таксама цямнелі і рабіліся зусім падобнымі да чарніцаў. Прачхаўшыся, Калюжны выбачаўся і, развітаўшыся з навучэнцамі, сыходзіў. Навучэнец Ступакоў выкладчыка малявання Калюжнага ўзненавідзеў. «Сваёй слінай ён запырсквае мае малюнкі! Мярзотныя барадаўкі робяць яго падобным да рапухі! Якога чорта ён не лекуецца? Учора ён чыхнуў-крыкнуў трыццаць два разы ўзапар. Трыццаць два разы! Трыццаць два!!!» — абураўся Ступакоў. Калюжны спрабаваў вылекавацца, але не змог. Ступакоў таксама спрабаваў не раздражняцца з-за нейкага там чхання, але не атрымалася. Ступакоў нават збіраўся настукаць кулакамі ў барадаўчатую галаў Калюжнага, але да гэтага не дайшло, бо настаў час летняй практыкі, і шляхі раздражнёнага навучэнца Ступакова і выкладчыка чхуна-крыкуна Калюжнага разышліся ў розныя бакі назаўжды. Пра падобны крыка-чых пісаў у сваім рамане і Майсей Кульбак. А я ж думаў раней, што крыкачых выкладчыка Калюжнага ўнікальны. Не! Так крыка-чхалі ў Мінску здаўна. Клімат.

## Вобразы

У прозе Кульбака шмат запамінальных вобразаў, яны вартыя цытавання, ну хоць бы й гэткі: «Цішыня. Хто хоча, можа нават пачуць, як расце крапіва пад сцяною (ніхто, на вялікі жаль, не хоча)». Ці такі вобраз: «Цырульнік быў глухі і не чуў, як ідзе час...» А яшчэ і маё любімае пра зімовы Мінск: «Паветра — чысты спірт».

## Няма

У рамане пра мінскіх габрэяў Майсей Кульбак так напісаў пра адмаўленне: «Усім вядома, што ў Цалела дзядзькі Юды разумная галава. Дайце яму волю, і ён пачне адмаўляць нават самога сябе». Цалела адмаўляў! І не толькі Цалела, сын Юды, мог адмаўляць самога сябе. Валянцін Акудовіч сябе адмаўляе. Паўсюль ходзіць і ўсім кажа, што яго — Валянціна Акудовіча — няма. Так і заяўляе: «Мяне няма». Ёсць такая завядзёнка ў тутэйшых габрэяў і не толькі ў габрэяў, як высветлілася. А каб хто нам сказаў нашто?

## Кіно

Рэстаўратар Юра Маліноўскі не разумеў людзей, што захапляліся вобразам Астапа Ібрагімавіча Бэндара з раманаў Ільфа і Пятрова. «Ну як можна цікавіцца такой нікчэмнасцю, такім хцівым прайдзісветам, як гэты Ося Беньдзер-Зайдунайскі? Ну каму ён, як і яго папярэднік Чынчыкаў, можа паслужыць прыкладам? Такім жа-ж нікчэмным фарцоўшчыкам, махлярам і аматарам захер-шахер-махеру? Не разумею я публіку, што бясконца цытуе «12 крэслаў» і «Залатое цяля»...» З камуністам Маліноўскім я не спрачаўся, бо сам меў прытоеную любоў да Чычыкава і Бэндара. Сам шматкроць глядзеў фільм «Залатое цяля» з Сяргеем Юрскім у галоўнай ролі. Сам запойна прачытаў дылогію пра вялікага камбінатара Астапа. І добра, што я не спрачаўся. Праз нейкі час усе нашы рэстаўратары пачалі чытаць Кульбака, пачалі любіць нэпманаўскі канструктывізм і ягоных апосталаў Ільфа з Пятровым, нават наш любімы настаўнік і правадыр — Алег Хадыка займеў мянушку Алег (Астап) Ібрагімавіч вялікі Камбінатара. Калі Пятрову з Ільфам пашанцавала з рэалізацыяй у кінематографе, дык Кульбаку не пашчасціла. Таму

